# ЦАРКОЎНЫ



БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

# ПАСЛАНЕЦ

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 19/25 КАЛЯДЫ 1997 3-4/44/54

## КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



Хрыстос нарадзіўся, слаўце!

Ізь Сьвятым Днём, што ў ім мы чэсьцім прыйшлае праз нараджэньне ў чалавечым целе Божага Сына збаўленьне людзкога роду, вітаю Вас, Годнае Пашаны Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы ймкняцеся, а доступу ня маеце.

З пастырскай любасьцяй да Вас шчыра жадаю ўсім, каб із сьвятла над Бэтлеэмам усталае Зоркі, што абвясьціла аб Хрыстовым Нараджэньні, і ў Вашых сэрцах успалымела ўсьцеха з Божае рупнасьці праз нас ды ўдзячнасьць за Ягоную бязьмежную ласку.

Ды, каб з гэтых пачуцьцяў Вы, наўзор ангялаў у Сьвяты Вечар, малітвамі й пабожнымі песьнямі ўславілі Нараджэньне з Найчыстае Дзеўны Божага Сына ды, як пастыры ў тую-ж Ноч, паводле спрадвечных звычаяў нашага Краю, ўшанавалі ўрачыстасьць Дня, у якім Дзівам выявілася Божая Усемагутнасьць ды Ягоная заўсёдная й бясконцая любасьць да грэшнага людзкога роду.



Ды яшчэ жадаю, каб з павагі да гэтага Вялікага Дзіва, як тыя мудрацы, што за зорамі сачылі ды Бэтлеэмскай Зоркай былі навучоныя пакланіцца й прынясьці дары Божаму Дзіцятку, Вы таксама з паклонам Яму не шкадуючы прынясьлі ахвяры з таго, што Вам дарагое ў жыцьці.

Я ведаю, што дзе-каго гэткае маё пажаданьне можа спалохаць і зьнеахвоціць, бо ў сучасных умовах у іх няма нятолькі нічога на ахвяру, але й недаволі, каб выжыць.

Таму ім і ўсім Вам нагадваю, што Богу не патрэбен водкуп дабром, якім Ён і так валодае, а прысьвячэньне на Ягоную службу чыстага сумленьня й пакорнага, ды кайнага духа, разам з гатовасьцяй да добрых учынкаў.

Нясучы гэтыя найдаражэйшыя й найбольш упададабалыя Богу дары не забывайцеся, Любыя, што як Ірад у мудрацоў хацеў выпытаць дарогу да Божага Дзіцятка, каб Яго забіць, гэтак і сёньня ёсьць сілы, што, акрываючыся гожымі словамі, хочуць Вашыя чыстыя сумленьні й добрыя паймкненьні выкарыстаць на супярэчныя Божай Волі ўчынкі, ды абярнуць іх у зброю зьнішчэньня дадзенае Вам Богам спадчыны.

Як тыя мудрацы, ня ўдаўшы Іраду мейсца, дзе нарадзілася Божае Дзіцятка, адыйшлі ў іхны край, гэтак і Вы не аддавайце Вашых чыстых думак і добрых намераў на службу злыдням нашых дзён, а шукайце магчымасьці ўжыцьцявіць іх у дагоду Богу.

А што-ж найбольш дагоднае й умілаванае Богу, як не стараньне будаваць закладзеную Ягоным, у Бэтлеэме народжаным Сынам, чыстую ад удзелу ў дзеях бязбожных сілаў сьвету, запраўды паслухмяную Ягоным наказам Царкву.

Я перакананы, што шмат паміж Вас із шчодрасьцяй гатовыя на гэткую ахвяру й працу, ды няўпэўненыя як яе пачаць.

Да іх я й зьвяртаюся ў сёньняшні Сьвятні Дзень з заклікам не заблудзіць у сеці выслужных сьвецкім справам лісьліўцаў, ані пайсьці за спакусамі тых, што крадуць добрае ймя Божае Справы ды самыя сябе выдаюць за царкоўных дастойнікаў, а, прыслухоўваючыся да нашых настаўленьняў і парадаў выверaных працай пачынальнікаў нашага царкоўнага адраджэньня, што ўжо дзеюць сярод Вас, прыступіць да адбудовы на нашай Бацькаўшчыне паслухмянае Божым наказам і дбайнае праз дадзеную Богам Беларускаму Народу спадчыну Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды заахвочваць да гэтага тых, што яшчэ сумняваюцца.

А тых з Вас, што з апекі гэтае роднае Царквы ўжо карыстаюць, клічу маральна й матарыяльна падтрымоўваць тых, што да гэтага дабрадзейства ймкнуцца ды за ягонае асягненьне змагаюцца.

Гэтак, вось, разам мы ўзноў уздымем на нашай спрадвечнай Зямлі запраўдную Праваслаўную Царкву, што Яе, як вароты да збаўленьня паставіў і адчыніў нам народжаны ў Бэтлеэме наш Збавец Ісус Хрыстос, Якому падзяка й слава няхай будзе на ўвесь час. Амінь.

\+ І з я с л а ў
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

## У КАЛЯДНІ ВЕЧАР

У Калядні Вечар
Думкай я пайшла
У Сьвятое Места
Прывітаць Хрыста,

Што ў куце стаенным,
Хоць Бог і Стварэц,
Нарадзіўся зь Дзеўны
Побач ля авец.

На саломе спаці
У ясьлях змог адно
Як Язэп і Маці
Уцешылі Яго.

Бо Дзіцятка-Божыч
Горка галасіў,
Шчодра з вочак сьлёзы
Раз за разам ліў.

Жаль Хрыста мне стала -
Упаўшы перад Ім
Твар сьлязьмі ўмывала
Й я йз Збаўцом маім.

А пасьля я пытань
Дзеўне задала:
Што магло ўквяліць так
Божае Дзіця?

Дзеўна-ж адказала
"Плача йз таго Ён,
Ева што з Адамам
Трапілі ў палон.

І абраз душ гожы,
Бог што быў ім даў,
Здаўнь на зьдзек варожы
У пекла ўладу ўпаў.

Плача, што ня любяць
Людзі ўжо Стварца
Ды грахамі брудзяць
Душы без канца.

Плача, што распусьце
Немажны ўстаяць
І праз чысьць пачуцьцяў
Ужо ня хочуць дбаць.

Плача, што з ахвотай
Пеклу ў службу йдуць,
Божае-ж работы
Не жадны крануць.

Чэрава ўсе любяць,
Дух-жа ў няпрыкмет
І навекі губяць
Свой духовы сьвет.

Вось, чаго Ён плача -
Ты патоль Яго,
Жаль суймі Дзіцячы
Бога ты Твайго.

Ты Яго пацешыш,
Калі ўвесь твой цям
Зь любасьцяй прысьвеціш
Небным пачуцьцям.

Ты Яго усьцішыш,
Калі сэрца жар
Наўсьцяж аддасі ты
Хоча Богу ў дар.

Ты узьвесялуеш,
Зробіш ўсьцех Яму,
Дух як ахвяруеш
Праўдзе на службу.

Ты Яго ўпатоліш,
З маладых як лет
Йсьці за Божай Воляй
Абяцацьмеш ўсьлед.

Ён ня стане плакаць
Жальна ўжо далей
І табе ў адзьдзяку
Дар Сьвятла пашле.

І мне - Маці разам
Радасьць зробіш ты,
Як жыцьцё наважыш.
Богу даць зусім.

Я цябе за шчодрасьць
Горача ўзьлюблю
І дачушкай роднай
Увек сабе вазьму.

Ты ў раі заўсёды
Будзеш са мной жыць
І да насалоды
Мёд духовы піць.

З ангеламі ў супольстве
Бачмеш Божы Від
І Сьвятое Тройства
Песьняй век хваліць.

У раскош бо райню
Ўселіць Бог цябе
Й любасьцяю дбайна
Войчай ахіне.

Зіхацяю Тройства
Неўяўной людзям
Будзе твой бясконца
Дзівавацца цям.

Любасьць безь мяжы што
Бога ды Стварца
Празь вякі ўсе чыста
Будзеш дазнаваць.

На зямлю Бог з ласкі
Да людзей зыйшоў,
Крыжам каб у райскі
Сад вярнуць іх зноў.

Узьлюбуй з адданьнем
Сына ты Майго
І за гэта станеш
Ты Яму сястрой!"

Дзеўны я любосна
Выслухала слоў
Й сэрца зайнялося
Палкім пачуцьцём.

Насалоднай, шчаснай
Любасьці сьвятой
Без канца нязгаснай
На ўвесь час жывой.

Й прыракла навечна
Богу я служыць,
Цям Яму із сэрцам
Й душу прысьвяціць.

Й гэтта неспадзеўна,
Быццам Маці мне,
Прытуліла Дзеўна
Да грудзей мяне.

Любасьць абяцала
Ды ахоў мне свой,
Чыста бы была я
Роднай Ей дачкой.

Выяўлена ўсё што
Дзеўнай мне Сьвятой
Змовіла Вам проста
З чыстай я душой.

Да сяброў з жаданьнем
Бога узьлюбіць
Й ім Хрысту з адданьнем
Верна век служыць.

О, Хрысьце, памогай
Любасьці Твае
Паспрыяй, дарогай
Крыжнай як ідзем!

**ДУХАВЕНСТВА Й ВЕРНІКАЎ ДЫ ПРЫХІЛЬНІКАЎ БАПЦ, ЧЫТАЧОЎ І ПАМОЖНІКАЎ НАШАГА ЧАСАПІСУ ДЫ ЎСІХ ВЕРНЫХ БОГУ Й БАЦЬКАЎШЧЫНЕ БЕЛАРУСАЎ ВІТАЕМ З ХРЫСТОВЫМ НАРАДЖЭНЬНЕМ І НОВЫМ 1998-М ГОДАМ ДЫ ЖАДАЕМ**

**РАДАЙ КАЛЯДЫ Й ШЧАДРА НАЛЕТА!**

РАДА Й КАНСЫСТОРЫЯ БАПЦ,
ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА,
РЭДАКЦЫЯ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"

### ТРАПАР (ПЕСЬНЯ) СЬВЯТА:

Твае нараджэньне, Хрысьце наш Божа, зазьзяла сьвету сьвятлом розуму, зь Яго бо тыя, што за зорамі сачылі, былі Зоркай навучоныя Табе, Сонцу Праўды, пакланіцца ды пазнаць Цябе, Золку з Найвышша. Госпаду, слава Табе.

### КАНДАК:

Сёньня Дзеўна Першбытнога родзіць і зямля пячору Няпрыступнаму прыносіць. Ангялы з пастырамі славу словяць, мудрацы-ж за зоркай усьлед ідуць, бо дзеля нас нарадзілася Малое Хлапча - Спрадвечны Бог.

## ВЫХОДЗЬМА-Ж НА ТАЛАКУ!

Як паасобныя людзі, ці народы, таксама й нацыянальныя праваслаўныя цэркры ня жывуць зусім асобна, а ў выніку розных абставінаў апынаюцца ў тых, ці іншых дачыненьнях з гэткімі-ж суседзкімі ўстановамі.

Суседзкія дачыненьні, нажаль, незаўсёды складаюцца згодна з хрысьціянскай навукай, а ў некаторых выпадках вынікаюць із замены гэтае навукі догмамі вышэйшасьці аднаго народу над іншымі й ягонага права панаваньня над імі.

Узорным прыкладам гэткага падпарадкаваньня Божае Праўды дзяржаўным захопніцкім мэтам ёсьць Маскоўскі Патрыярхат Расейскае Праваслаўнае Царквы, што адмаўляе права на йснаваньне нацыянальных аўтакефальных цэркваў Беларускага й Украінскага Народаў ды прысьвячае ягоную дзейнасьць не на збаўленьне вернікаў, а на іхную русыфікацыю.

Супраць гэтага гвалту над Божымі наказамі й людзкімі душамі, ды за права іхных народаў маліцца Богу ў родных Праваслаўных Цэрквах і на родных мовах сёньня змагаюцца Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ды Кіяўскі Патрыярхат Украінскае Праваслаўнае Царквы.

Дзякуючы Ейнаму лепшаму стану Украінская Праваслаўная Царква ўжо раней прыходзіла з дапамогай БАПЦ і, як паказваюць нядаўна асягнутыя паміж першагерархамі дамоўленьні, не адмовіла гэткае шчодрае сястрыное дапамогі й цяпер.

У выніку гэтых дамоўленьняў, у першую чаргу, праз згоду КП УПЦ на хіратоніі япіскапаў і рукапалажэньні сьвятароў забясьпечанае далейшае йснаваньне самое БАПЦ.

Праз прызначэньне В.Прсв. Архіяпіскапа Серафіма на апякуна над справамі адбудовы БАПЦ на Беларусі асягнуты блізкі нагляд над захаваньнем у гэтай адбудове царкоўных правілаў і парадкаў.

Атрыманая магчымасьць падрыхтоўкі сьвятароў БАПЦ на студыях у духоўных вучэльнях, сэмінарыях і акадэміях КП УПЦ.

Забясьпечаная дапамога КП УПЦ ува ўсіх агульнацаркоўных і парахвіяльных патрэбах, што могуць зайснаваць пры адбудове БАПЦ на Беларусі.

Дзякуючы Кіяўскаму Патрыярхату Украінскае Праваслаўнае Царквы за выяўленую ў гэтых дамоўленьнях хрысьціянскую любасьць да сястрыное БАПЦ заклікаем усіх Ейных вернікаў і ўсіх праваслаўных беларусаў шчыра спрычыніцца да асягненьня вызначаных у дамоўленьнях мэтаў.

## ЗАЯВА
## ПРАЗ ПРЫНЦЫПЫ ЎЗАЕМАДАЧЫНЕНЬНЯЎ ПАМІЖ УКРАІНСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНЫМІ ЦЭРКВАМІ

У імя Айца і Сына ды Сьвятога Духа!

Украінская й Беларуская Цэркры - найдаўнейшыя Цэрквы-сёстры, што ў недалёкай мінуласьці складалі адзінае цела Кіяўскае Мітраполіі - першае зарганізаванае формы царкоўнага жыцьця ўсходніх славянаў. Нашыя народы таксама першыя сярод усходніх славянаў прыйнялі сьвятое таінства Хрышчэньня на Сьвятых Кіяўскіх Горах, якія ўдабрасловіў Сьвяты апостал Андрэй Першпаклікaны ў межах вялікае Кіяўскае Дзяржавы за князяваньня Сьвятога Роўнаапостальнага князя Уладзімера Вялікага.

Цяпер, калі ўкраінскі й беларускі народы маюць на сваёй собскай зямлі свае ахоўваныя Богам Дзяржавы мы гэтымі подпісамі замацоўваем нашае сталае жаданьне мецъ мір і любоў паміж намі ды нашымі вернікамі.

Нашае кананічнае быцьцё грунтуецца на 34 Апостальскім Правіле, непарушных уставах Сьвятых Канонаў, якія ўстанаўляюць, што "устрой царкоўных справаў павінен адпавядаць палітычным і грамадзкім формам" (Канон 17 IV Усяленскага Сабору, а таксама Канон 38 VI Усяленскага Сабору) ды Апафегмы Сьвяцейшага Ўсяленскага Патрыярха Фоція - "прыйняць, што правы, якія датычаць царкоўных справаў, павінны адпавядаць палітычным ды адміністрацыйным зьменам".

Сьцьвярджаючы, што пэўная частка нашых вернікаў супрацьпраўна знаходзіцца ў адміністрацыйным ды кананічным падпарадкаваньні замежнаму духоўнаму цэнтру - Маскоўскаму Патрыярхату, мы заяўляем празь непахіснасьць палажэньняў Патрыяршага й Сынадальна-Кананічнага Томасу Ўсяленскае Канстантынопальскае Патрыярхіі ад 13 лістапада 1924 году замацованага подпісам Сьвятое памяці Патрыярха Рыгора, дзе напісана, "што першае адзьдзяленьне ад нашага пасаду Кіяўскае Мітраполіі ды залежных ад яе праваслаўных мітраполіяў Літвы й Польшчы, а таксама іхнае далучэньне да Сьвятое Маскоўскае Царквы адбылося не паводле вымогаў Кананічных Правілаў...".

Мы заяўляем, што рэпрэзэнтаваць перад праваслаўным сьветам праваслаўныя паствы іхных Дзяржаваў могуць толькі адпаведна Украінская Праваслаўная Царква Кіяўскага Патрыярхату ды Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, як нацыянальныя Памесныя Праваслаўныя Цэрквы іхных народаў.

Мы перакананыя, што Сьвятло Хрыстовае Праўды неўзабаве ўва ўсёй ягонай поўнасьці зазьзяе над нашымі нацыянальнымі Дзяржавамі, умацуе нас на шляху братняе любові ды збаўленьня.

Няхай Божая ласка заўсёды будзе з усімі намі! Амінь!

*Філарэт (пячатка)*
Патрыярх Кіяўскі
й Усяе Русі-Украіны

*+ Ізяслаў (пячатка)*
Мітрапаліт, Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае
Праваслаўнае Царквы

9 верасьня Б. л. 1997

## ПАДАРОЖЖА Ў ПРЫЯЗЬНЬ

Патрэба падарожжа ў Кіяў, дзеля наладжаньня праз асабістыя кантакты бліжэйшае лучнасьці ды цясьнейшага супрацоўніцтва паміж нацыянальнымі Праваслаўнымі Цэрквамі братніх украінскага й беларускага народаў, зьявілася адразу пасьля ўзнаўленьня аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы на Украіне ды ўстанаўленьня ў Кіяве патрыяршага пасаду ў 1990-м годзе.

Магчымасьці гэткага падарожжа сталі рэальнымі праз сустрэчы й знаёмствы Я.М. Мітрапаліта Ізяслава з прыбылымі ў ЗША на паховіны сьв. пам. Патрыярха Мсьціслава ў 1993-м годзе япіскапамі Кіяўскага Патрыярхату УПЦ ды выніклага зь іх ліставаньня, апошня з В.Прсв. Серафімам, Архіяпіскапам Роўненскім і Астрожскім ды ўрэшт і зь Яго Сьвяцействам Сьвяцейшым Патрыярхам Філарэтам, ад якога й прыйшлі запросіны Першагерарху БАПЦ із спадарожнікамі на адвед у Кіяў.

Пасьля пары няўдалых зь цяжкасьці камунікацыі спробаў справіцца зь неабходнымі на ўезд у Украіну фармальнасьцямі, мінулым летам нарэшце ўдалося заладзіць усё патрэбнае да падарожжа й яно было вызначанае на час ад 1-га да 10-га верасьня.

Суправаджаць Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, як незайнятаму заработкамі пэнсыянэру ды знаёмаму з царкоўнымі справамі дабраахвотніку на ўсялякія патрэбныя, а нікім іншым не абнятыя абавязкі, давялося мне й гэткім чынам, памаліўшыся на Сьв. Літургіі ў нашым Саборы ў Брукліне, у нядзелю, 31-га жнівеня падвечар я з Уладыкам Ізяславам апынуліся на самалёце чэскае авіялініі, што з Нуарку накіроўваўся ў Прагу.

Начныя гадзіны ў самалёце доўжыліся бясконца й адно, на што ў іхным працягу здарыла зірнуць былі сьвяцелцы Ірляндыі ды ўясьнены безьлічай лямпаў Лёндан.

Раніцай 1-га верасьня, пасьля 3-х гадзіннага чаканьня ў мадэрным будынку пражскага лётава сядаем урэшт у яшчэ адзін самалёт і пасьля пары гадзінаў у паветры выходзім зь яго ў Барыспалі каля Кіява.

Сустракае Уладыку Ізяслава з букетам кветак і ў суправаджэньні сьвятара ды прыслужніка В.Прсв. Архіяпіскап Серафім, пасьля радаснага знаёмства зь якім, накіроўваемся да самаходу.

Падарозе завязваецца гутарка й нас уражае цяплыня словаў В.Прсв. Серафіма й ягонае руплівае абыходжаньне з намі.

Прыехаўшы ў неспадзявана вялікі будынак патрыярхату ў цэнтры Кіява, знаёмімся з асабістым сакратарам патрыярха а. ігуменам Зьмітрам Рудзюком, які дае ў нашае распараджаньне два пакоі з умывальнямі на трэцім паверху, куды мы адразу й накіроўваемся, каб крыху адпачыць ды ачуняць ад зьмены часу.

Неўзабаве, аднак, нас клічуць пасілкавацца пры патрыяршым стале й мы, няўпэўненыя ў магчымым цырыманіяле пры гэткіх нагодах, падаемся на сустрэчу зь Яго Сьвяцействам Сьвяцейшым Патрыярхам Філарэтам.

Сустрэча, дзякуй Богу, замест якой-колечы цырымоніі абяртаецца ў цёплае прывітаньне паміж як-бы здаўна знаёмымі архіпастырамі, а ўсьлед пры пачастунку пачынаецца й прыяцельская гутарка.

У гутарцы бяруць удзел: В.Прсв. Архіяпіскап Серафім, а. ігумен Зьміцер, кіраўнік справаў патрыярхату а. прат. Барыс Табачэк ды кіраўнік канцылярыі сп. Артур Губар.

Зразумелая рэч, што гаспадары цікавяцца станам БАПЦ і нам даводзіцца выяўляць нясуцешную ягоную запраўднасьць.

Наш нярадасны аповяд ня сустракае, аднак, віднога расчараваньня зь іхнага боку, а знаходзіць зразуменьне й спагад, а ўсьлед і парады з заахвочаньнем ды абяцаньнем дапамогі ўва ўзнаўленьні БАПЦ на Беларусі.

У справе гэтае дапамогі, пасілкаваўшыся, і пачынаем размову з В.Прсв. Архіяпіскапам Серафімам, прадстаўляючы яму загадзя апрацаваныя Кансысторыяй БАПЦ прапановы.

Уладыка Серафім, азнаёміўшыся з гэтымі прапановамі, выказвае задаваленьне, што ў іх унятае ўсё патрэбнае дзеля ўстанаўленьня супрацоўніцтва й узаемадапамогі паміж Кіяўскім Патрыярхатам Украінскае Праваслаўнае Царквы й Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою ды з гатовасьцяй згаджаецца прадставіць нашыя думкі на развагу Яго Сьвяцейства.

Падчас вячэры ў той-жа дзень даведваемся, што нашыя прапановы, з адной толькі заўвагай, Яго Сьвяцействам прыйнятыя й, што заяву прынцыповага характару ў гэтай справе апрацуе сп. Артур Губар, а дамоўленасьць аб практычных кроках супрацоўніцтва й узаемадапамогі давядзецца зладжыць мне.

У той-жа вечар звоніць тэлефон зь Менска й з радасьцяй, дакладней як перад выяздам, дамаўляемся з пачынальнікамі адбудовы БАПЦ на Бацькаўшчыне калі сустрэнемся ў Кіяве.

Назаўтра, у аўторак, зранку накіроўваемся ў Кіяўскую Духоўную Акадэмію й Сэмінарыю, што месьцяцца ў будынках пры прыгожай як цацка Сьв. Андрэяўскай Царкве, якое, дзеля рамонту, у сярэдзіне не давялося пабачыць.

Сустракае ўладыкаў Ізяслава й Серафіма рэктар абедзьвюх вучэльняў малады й энэргічны япіскап Даніла, які пры кубку кавы знаёміць гасьцей із станам і пэрспэктывамі на будучыню ачоленых ім навучальных установаў

У адной і другой вучэльні, паводле ягоных словаў, з мноства кандыдатаў разам знайшлося мейсца на блізка 250 студэнтаў, што незважаючы на цеснасьць у клясах і жыльлёвых пакоях, ды беднасьці ўтрыманьня, з прысьвячэньнем і вытрываласьцяй рыхтуюцца да працы на Божай ніве.

Прсв. япіскап Даніла, як мы даведаліся раней, займае яшчэ й становішча старшыні кананізацыйнае камісыі Кіяўскага Патрыярхату УПЦ, дык да яго Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў і зварочваецца з пытаньнем аб магчымасьці супольнае кананізацыі магілёўскага архіяпіскапа Варлаама, што ў 1812-м годзе выйшаў з царкоўнае залежнасьці ад Масквы, за што царскай уладай быў жорстка пакараны й памёр у зьняволеньні пакутніцкай сьмерцяй.

Прсв. Даніла адказвае, што ён незнаёмы з жыцьцём архіяпіскапа Варлаама й прапануе, калі ймкнемся да супольнае кананізацыі, прадставіць патрэбныя дадзеныя Кіяўскаму Патрыярхату, або кананізаваць самой БАПЦ, а яны тады гэты акт вызнаюць.

Пасьля гутаркі з рэктарам уладыкі Ізяслаў і Серафім наведваюць зайняткі ў акадэміі й сэмінарыі, ды на гэтым візыт канчаецца.

Пры полудні за патрыяршым сталом Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў знаёміцца зь япіскапам юрысдыкцыі Кіяўскага патрыярхату ў ЗША Аляксандрам (Быкаўцом), што быў яшчэ ў Кіяве пасьля ўдзелу ў жнівеньскім Сусьветным Форуме (зьездзе) Украінцаў.

Пасьля полудня, пакінуўшы ўладыку адпачываць, сам пускаюся крыху пахадзіць па кіяўскіх вуліцах.

Першае, што кідаецца ў вочы гэта яшчэ даўняя занядбанасьць, ці запушчанасьць места, што ўпарадкаванае й дагледжанае магло-б прыцягнуць натоўпы турыстаў.

Зварочвае ўвагу даволі густая сетка найбольш невялікіх

прыватных крамаў і немалая колькасьць прадстаўніцтваў буйных замежных фірмаў, ды прыемна ўражаюць усе чыста ўкраінскія шыльды на прадпрыемствах і вуліцах, хоць апошнія дасюль яшчэ густа паназываныя йменамі расейскіх знакавітасьцяў.

Прыкра дзівуюць й някранутыя манумэнты Леніна ды Шчорса, што да гэтае пары стырчаць на адной з галоўных мескіх вуліцаў.

У сераду, 3-га верасьня, ад ранку рыхтаваліся да ад'езду ў пасаднае места япархіі В.Прсв. Архіяпіскапа Серафіма - Роўна (380 км), што празь ягоную зайнятасьць выдавецкімі справамі адкладаўся з гадзіны на гадзіну.

Урэшце пасьля полудня, калі ўжо былі гатовыя сядаць у самаход, сп. А. Губар прынёс вестку, што ангельская амбасада прыймае спачуваньні з прычыны нядаўняе сьмерці прынцэсы Дыяны й Яго Сьвяцейства Патрыярх Філарэт, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў ды В.Прсв. Архіяпіскап Серафім паехалі туды з гэтай мэтай.

З гэтае прычыны мы пакінулі Кіяў, калі ўжо вечарэла й ад'ехаўшы недалёка па мадэрным, але незабясьпечаным ад збочнага доступу як амэрыканскія, шляху на Львоў, ужо мала чаго пабачылі ў тых ваколіцах, дзе праяжджалі.

У Роўна прыехалі пасьля 9-е г. вечара й павячэраўшы ў пакоях В. Прсв. Архіяпіскапа Серафіма ў будынку Япархіяльнае Управы, там-жа затрымаліся на 4 дні.



У залі паседжаньньняў Кіяўскага Патрыярхату зьлева направа: Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх БАПЦ, Яго Сьвяцейства Сьвяцейшы Філарэт, Патрыярх Кіяўскі й Усяе Русі-Украіны, В.Прсв.Серафім, Архіяпіскап Ровенскі й Астрожскі, Прсв. Япіскап Аляксандар з ЗША.

Устаўшы назаўтра рана я зайшоў на раньнюю Літургію, што адпраўлялася ў пабудаваным побач даўнім Сьв. Уваскрасенскім Катэдральным Саборы, а пасьля агледзеўшы яго звонку знайшоў у адной нішы ў сьцяне прыгожы абраз Сьв. Юльляны Гальшанскае, якая, як выявілася, у глыбокай пашане сярод праваслаўных вернікаў Валыні.

Нажаль мясцовыя ўлады, дагаджаючы яшчэ на ўсялякі выпадак нядаўнім гаспадарам, аддалі саборны падвал у карыстаньне маскоўскай парахвіі, што перадае свае адправы навонак праз галасьнікі, ад чаго, разам зь іхнай побач пастаўленай крамай рэлігійных выданьняў і рэчаў, ды з ускрозь прысутнымі жабракамі, збоку сьвятыні ствараецца кірмашная атмасфэра.

Пасьнедаўшы й запрасіўшы з сабою кіраўніка япархіяльнае канцылярыі а. Яраслава Кавальчука В.Прсв. Архіяпіскап Серафім і Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў накіроўваюцца наведаць украінскі нацыянальны помнік - поле крывавае бітвы казакоў Багдана Хмяльніцкага супраць войска Рэчыпаспаалітай пад Берасьцечкам у 1651-м годзе.

Затрымаўшыся накоратка падарозе аглядаем пачатую будову сьценаў вялікае мураванае царквы ды заходзім на ласункі ў новапабудаваны побач дом кіраўніка аднае зь сельскіх парахвіяў.

На казацкіх магілах, як тут называюць поле бітвы пад Берасьцечкам, аглядаем пабудаваную ўкраінскім грамадзтвам яшчэ ў 1912-м годзе трохпавярховую царкву-помнік, заходзім у невялікі музэй побач зь ёю ды знаёмімся зь мясцовым сьвятаром.

Усьлед заяжджаем у Дубна, сьпярша да кіраўніка парахвіі КП УПЦ, якой перададзены вялізны былы касьцёл разам з кляштарам Бэрнардынак, што патрабуюць астранамічнае колькасьці грошай на рамонт, а пазьней затрымоўваемся каля нядаўна пабудаванага коштам дырэктара й працаўнікоў мясцовае цукровае фабрыкі мадэрнага стылю Сьв. Пакроўскага Сабору.

Нажаль ужо вечарэе й не знайшоўшы нікога. каб адчыніць дзьверы сьвятыні, варочаемся ў Роўна.

У пятніцу раніцай уладыкі, а. Яраслаў, малады сьвятар - кандыдат на кіраўніка парахвіі ў адным ізь сёлаў у якое маем заехаць ды я, выпраўляемся ў Дубровіцу на беларускім памежжы.

Перад вялікай і даўняй царквою Нараджэньня Божае Маці ўладыкаў чакае грамада вернікаў і яны па ўсыпанай кветкамі дарозе йдуць да дзьвярэй, дзе з хлебам і сольлю сустракае іх моладзь, а далей із крыжам вітае кіраўнік парахвіі, малады й дзейны а. Даніла Каўташ.

Па засланых жанчынамі, паводле мясцовага звычаю, празь сярэдзіну царквы колерных хустках уладыкі йдуць да аналою, а ўсьлед і ў алтар, пасьля чаго пачынаецца кароткая адправа.

Пасьля абодва ўладыкі зьвяртаюцца да вернікаў з кароткімі прынагоднымі словамі.

Падзівіўшыся на немалы прагрэс рамонту будынку, на запросіны а. Даніла заходзім у ягоную гасподу побач царквы, дзе матухна ўжо падрыхтавала багаты й смачны пачастунак.

Да гасьцей далучаецца й рэдактар мясцовае дубровіцкае газэты "Поліськй Маяк" сп. Аляксандар Стрыжак, інфармуючы якога праз БАПЦ ды ў гутарцы зь іншымі застольнікамі выходзіць пара гадзінаў.

Урэшце, усё-ж, настае пара падавацца ў далейшую дарогу, на агляд мейсца на новую парахвію КП УПЦ.

Гэная дарога, нажаль, выпала цяжкая, бо высыпаная зь бітае на буйныя паколы базальтавае скалы й пасьля мабыць 10-ці кілямэтравае трасьні па ёй мы ўсе прасілі Божага зьмілаваньня.

Даехаўшы неяк яшчэ жывымі ў сяло В. аглядаем

## ПАДАРОЖЖА Ў ПРЫЯЗЬНЬ

(ПРАЦЯГ З 5-е БАЧ.)

маленькую спустошаную царкоўку на магільніку ды знайшоўшы старшыню арганізацыйнае групы парахвіі заглядаем і ў нялепшым стане за царкву дом для сьвятара.

Ажахнуты станам рэчаў уладыка Серафім дае няспраўнаму арганізатару сур'ёзнае настаўленьне, якое той абяцае выканаць, але прыехалы з намі кандыдат на кіраўніка парахвіі, у якога сям'я на прыбытку, застаецца без пасады й мы ўсе яму моўчкі спагадаем.

Пасьля гэтае няўдачы яшчэ раз заяжджаем у гасьцінны дом а. Даніла ў Дубровіцы, дзе пры шчодрай вячэры ды ў прыемнай гутарцы зь мілымі гаспадарамі й з падыйшоўшымі гасьцьмі наш настрой папраўляецца.

У сыботу, 6-га верасьня, раніцай едзем з уладыкам Серафімам у Астрог, дзе аглядаем адчыненую частку будынку ведамае зь гісторыі Астрожскае Акадэміі, што цяпер належыць да дзяржаўнага ўнівэрсытэту й у канцы тыдня ў ім няма зайняткаў.

Пасьля накіроўваемся ў замак князёў Астрожскіх, рэшткі якога захаваліся да нашых дзён і абыходзім уладжаны ў іх невялікі, але цікавы музэй, ды прыглядаемся да вялікае царквы й званьніцы, што займаюць большую частку замкавага панадворку.

Варочаючыся з Астрогу заяжджаем у новы Сьв. Пакроўскі Катэдральны Сабор, што будуецца ў Роўна й дзівуемся з размаху праекту, а яшчэ больш з таго, як, ня гледзячы на эканамічныя цяжкасьці, дзякуючы ахвярнасьці вернікаў, будова ўжо набліжаецца да заканчэньня.

На гэтым нашыя падарожжы па ачоленай уладыкам Серафімам япархіі канчацца й мы варочаемся ў Япархіяльную Управу.

З гэтае прычыны даводзіцца сказаць пару словаў праз краявіды й ваколіцы, якія праездам здарыла пабачыць.

Як вырасламу ў лесавой краіне чалавеку мне адразу кінуліся ў вочы вялізарныя разьлегласьці, калгасных яшчэ, палёў, дзе лясочкі й гаі паказваюцца сьціплымі рамкамі, ці аздобамі.

Побач з гэтым уразіла невяліч і беднасьць найбольш старых ужо хатаў, ды цеснасьць панадворкаў, што разам складаюцца ў вобраз нейкае надарэмнасьці жыцьця.

Гэтую надарэмнасьць выпучваюць яшчэ больш паўсталыя апошня на мескіх ускраінах г.зв. "царскія сёлы", дзе нядаўна ўзбагацелыя, не чакаючы на ваду, каналізацыю, электрыку й газ, ды брук на вуліцах, будуюць пышныя да сьмешнасьці іхныя дамы.

Звычайныя-ж людзі ў час нашага падарожжа капалі бульбу, што сёлета вельмі неўрадзіла, ды, усё яшчэ, як давялося пачуць, пабойваліся, што з магчымым дазволам на прыватную собскасьць, усю іхную зямлю раскупяць замежныя капіталісты.

Пасьля паўдня ў сыботу Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў сустрэўся зь ягонай сям'ёю, што прыехала з Бацькаўшчыны, а я апрацоўваў тэкст дамоўленасьці паміж Першагерархам БАПЦ і В.Прсв. Архіяпіскапам Серафімам у справе дапамогі Кіяўскага Патрыярхату УПЦ у адбудове нашае Царквы ў Беларусі, які пазьней перадаў а. Яраславу й архідыякану Вікеньцію да перакладу на ўкраінскую мову.

Увечары ўладыкі Ізяслаў і Серафім з ваколічным духавенствам архірэйскім чынам адправілі вялікае павячэрра ў Сьв. Уваскрасенскім Катэдральным Саборы.

У нядзелю, 7-га верасьня, раніцай Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з Архіяпіскапам Серафімам, прыслужнікамі й групай вернікаў, па ўсыпанай кветкамі дарозе накіраваліся з будынку Япархіяльнае Управы ў Сьв. Уваскрасенскі Катэдральны Сабор, дзе з хлебам і соляй сустрэлі іх сябры парахвіяльнае рады ды прывітала духавенства (8 сьвятароў і 3 дыяканы) з прыслужнікамі.

Адправа Сьв. Літургіі поўным архірэйскім чынам была вельмі ўрачыстая, цудоўныя сьпевы двох хораў уздымалі душу да Найвышша, а від напоўненага вернікамі сабору заклікаў да малітвы, каб Бог паслаў нам ласку дачакацца гэткае службы Яму на нашай Бацькаўшчыне.

Пасьля адправы быў багацейшы, як у звычайныя дні, пачастунак у Япархіяльнай Управе, на які былі запрошаныя некаторыя сьвятары, што зрабіла гутарку пры стале жывой і цікавай.

У гэтым часе зазваніў тэлефон і пры ім абазваўся Прсв. Япіскап Ізяслаў, што кіруе Жытомірскай Япархіяй КП УПЦ, які запрасіў Я.М. Мітрапаліта Ізяслава варочаючыся ў Кіяў падарозе абавязкава заехаць у Жытомір, каб сустрэцца зь ім.

Зразумелая рэч, што аб адмове не магло быць гутаркі.

Падвечар таго самага дня адбылося падпісаньне ўладыкамі дамоўленасьці ў справе дапамогі Кіяўскага Патрыярхату УПЦ у адраджэньні Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Беларусі, аб зьмесьце якога коратка гаворыцца на 3-й бачыне ў гэтым нумары "Царкоўнага Пасланца".

Пры гэтай нагодзе В.Прсв. Архіяпіскап Серафім падарыў Я.М. Мітрапаліту Ізяславу, зробленыя мяйсцовым майстрам, прыгожыя крыж і панагію.

У панядзелак, 8-га верасьня, падарозе ў Кіяў, мы заехалі ў Жытомір, дзе былі вельмі сардэчна вітаныя Прсв. Япіскапам Ізяславам і ягонымі памочнікамі ды вернікамі.

Пасьля кароткае малітвы ў пасаднай царкве Прсв. Япіскапа Ізяслава, што разам з прылеглымі да яе манастырскімі будынкамі рэстаўруецца й рамантуецца, уладыкі наведалі зайняткі ў Духоўнай Вучэльні ды ўрэшт былі запрошаныя ў пакоі Япархіяльнае Управы на малы пачастунак.

Падчас пачастунку Прсв. Япіскап Ізяслаў з энтузыязмам выказаў ахвоту як толькі зможа памагчы ў адраджэньні БАПЦ ды нават даў згоду арганізаваць парахвіі БАПЦ сярод беларускага насельніцтва ў ягонай, памежнай зь Беларусяй япархіі.

Пасьля пачастунку здарылася (арганізаваная Япархіяльнай Управай) неспадзеўка, бо зьявіліся карэспандэнты раённага ды абласнога тэлебачаньня, і давялося ўсім тром архірэям перад камэрамі адказваць на пытаньні, што найбольш датычылі БАПЦ.

Пры сардэчным разьвітаньні з Прсв. Япіскапам Ізяславам Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў атрымаў ад яго ў падарку вельмі харошыя іконкі Збаўца й Божае Маці работы мяйсцовага мастака.

Прыехаўшы ў Кіяў мы яшчэ пасьпелі агледзець старадаўні Сьв. Міхайлаўскі Манастыр ды зазірнуць у Сьв. Хвядосаўскі Манастыр у зьвернутай Кіяўскаму Патрыярхату частцы Пячорскае Лаўры.

Вечарам у той-жа панядзелак быў канчаткова ўзгоднены тэкст заявы праз прынцыпы ўзаемадачыненьняў паміж Украінскай і Беларускай Праваслаўнымі Цэрквамі, што яе падпісалі Сьвяцейшы Патрыярх Філарэт і Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, ды якая надрукаваная на 3-й бачыне ў гэтым нумары "Царкоўнага Пасланца".

У аўторак, 9-га верасьня, а 11-й г. раніцы ў залі паседжаньняў Патрыярхату адбылася канфэрэнцыя Яго Сьвяцейства Сьвяцейшага Патрыярха Філарэта з прэсай і тэлебачаньнем, узяць удзел у якой, у сувязі з супольнай заявай і падпісаньнем дамоўленасьці аб супрацоўніцтве паміж КП УПЦ і БАПЦ, былі запрошаныя Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў і В.Прсв. Архіяпіскап Серафім.

Яго Сьвяцейства Сьвяцейшы Патрыярх Філарэт перш

прадставіў факты, што датычылі разьвіцьця Кіяўскага Патрыярхату УПЦ і ягонага змаганьня супраць маскоўскага рэлігійнага імпэрыялізму, а затым выясьніў прычыны й сэнс раздадзенае рэпартэрам ужо ўспомненае заявы.

Пасьля гэтага на пытаньні рэпартэраў адказвалі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, В.Прсв. Архіяпіскап Серафім, сп. Артур Губар і я.

Рэпартажы з прэсканфэрэнцыі ўвечар таго-ж дня былі паказаныя 4 разы на тэлебачаньні.

Прэсавыя водгукі абяцалі нам прысласць пазьней.

Зараз-жа пасьля прэсканфэрэнцыі прыбыла 8-мі асабовая дэлегацыя пачынальнікаў дзейнасьці на ўзнаўленьне БАПЦ на Беларусі зь Менску, пасьля знаёмства з удзельнікамі якое й паведамленьня ім вынікаў нашага падарожжа ў Кіяў, пачаліся гутаркі аб сытуацыі на Бацькаўшчыне ды далейшых кроках у іхнай працы.

Да гутаркі крыху пазьней далучыўся В.Прсв. Архіяпіскап Серафім, які растлумачыў значаньне падпісанае паміж ім і Я.М. Мітрапалітам дамоўленасьці й, у поўных веры ў Божую помач ды энтузыязму да дзейнасьці словах, выказаў ягоную навагу памагчы Беларускаму Народу ўзнавіць на роднай зямлі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ды заклікаў прадстаўнікоў жадных гэтага ўзнаўленьня вернікаў ахвярна працаваць на гэтую вялікую Мэту.

Мне здаецца, што словы В.Прсв. Архіяпіскапа Серафіма сустрэлі моцны водгук у сэрцах нашых суродзічаў.

Пасьля гэтага Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў даў інтэрв'ю карэспандэнту газэты "Наша Ніва".

Патрыярхія забясьпечыла гасьцей зь Беларусі полуднім і вячэрай у аўторак, ды сьнеданьнем і полуднем на наступны дзень, а на начлег знайшліся пасьцелі ў пакоях дзе былі затрымаўшыся я з уладыкам Ізяславам.

Раніцай у сераду, 10-га верасьня, працягваліся гутаркі з нашай дэлегацыяй зь Менску, у выніку якіх былі вызначаныя мэты й спосабы дзейнасьці на найбліжэйшы час.

Галоўным зь іх мае быць, апрача пашырэньня ідэі аўтакефаліі, і пачатак практычнага ўзнаўленьня БАПЦ на Бацькаўшчыне, сьпярша, зь нястачы сьвятароў, праз засноўваньне малітоўных грамадаў пад кіраўніцтвам пастаўленых на гэта вернікаў, што будуць дзеяць пад узгодненым зь Я.М. Мітрапалітам Ізяславам наглядам В.Прсв. Архіяпіскапа Серафіма, а з часам вырастуць у кіраваныя сьвятарамі парахвіі БАПЦ.

Пасьля полудня дэлегацыю прыйняў і цёпла зь ёю пагутарыў, ды з ахвотай сфатаграфаваўся Сьвяцейшы Патрыярх Філарэт.

Час, аднак, бег і падвечар з сумам давялося разьвітацца зь мілымі ўдзельнікамі дэлегацыі з роднага Краю, што сьпяшалі ў далёкае падарожжа цягнікам.

Увечар гэтага-ж дня, вельмі цёплымі словамі выпраўляныя, мы разьвіталіся зь Яго Сьвяцействам Сьвяцейшым Патрыярхам Філарэтам і працаўнікамі Патрыярхату.

На памятку візыты Яго Сьвяцейства падарыў Я.М. Мітрапаліту Ізяславу вялікую й дарагую, нядаўна перавыдадзеную Кіяўскім Патрыярхатам кнігу "Трэбнік" мітрапаліта Пятра Магілы, а мне каштоўную ікруставаную шкатулку, што цяпер на відным мейсцы красуецца ў маёй хаце.

Раніцай у чацьвер, 11-га верасьня, В.Прсв. Архіяпіскап Серафім адвёз нас на Кіяўскае лётава ў Барыспалі, дзе з сумам давялося разьвітацца з гэтым з запраўднай хрысьціянскай душою й залатым сэрцам архіпастырам.

Пасьля 2-х гадзіннага лёту мы апынуліся ў Празе й заехаўшы ў гатэль, дзе дзякуючы сп. Аляксандру Лукашуку з Радыя "Свабода" загадзя былі зробленыя рэзэрвацыі, па тэлефоне давмовіліся йз сп. Вячаславам Станкевічам пасьля паўдня зайсьці ў рэдакцыю беларускіх перадачаў.

Выявілася, што ад гатэлю да радыястанцыі зусім блізка й на сустрэчу мы накіраваліся пешкі.

Кіраўнік беларускіх радыяперадачаў сп. Вячаслаў Станкевіч сустрэў нас вельмі прыемна й пазнаёміўшы з працаўнікамі рэдакцыі, паказаў увесь будынак радыястанцыі ды растлумачыў ейныя апэрацыі.

Пасьля а. Канстантын Бандарук і сп. Сяргей Шупа запісалі на йстужку наш аповяд праз падарожжа ў Кіяў, што перапрацаваны ў рэпартаж неўзабаве пайшоў у эфір.

Пры разьвітаньні дамовіліся наладзіць цясьнейшую лучнасьць дзеля пашырэньня ідэі аўтакефаліі на Беларусі.

Два наступныя дні былі прысьвечаныя на агляд Прагі - цудоўнага места, што непарушна захавала амаль усе памяткі мінулых стагодзьдзяў і з гэтае прычыны нават у палове верасьня яшчэ нагэтулькі поўнае турыстаў, што й самыя гаспадары - чэхі мала заўважваюцца.

Гледзячы на ўсе гэтыя памяткі рабілася сумна, што ў нас гэткія-ж багацьці даўно ўжо зруйнаваныя маскоўскім займом ды ўзьнятымі ім войнамі.

Да гэтага суму даходзіў і боль сэрца, што ў гэтым займе загінулі нятолькі нашыя гістарычныя памяткі, але й зблажэла нашая нацыянальная душа, што ўжо ня горнецца да Бога, што яе стварыў, ані не шануе дадзеных Стварцом дароў, а паглядае, каб пажывіцца крышкамі йз стала мажных гэтага сьвету.

А каб гэтая душа схамянулася ды ня шукала Бога там, дзе за гэта гэтак, ці йнакш плоцяць, а павярнула да сваё роднае Праваслаўнае Царквы, за Якую змагаліся бацькі й дзяды, ды сама стала на абарону гэтае Духовае Сьвятыні, тады й народнаму целу, што яна ў ім жыве, была-б будучыня нягоршая нятолькі ад суседзяў, але й нямала ад якіх багатых дзяржаваў на гэтай зямлі.

Багацьце Божае любасьці й ласкі да нас, ува ўсёй іхнай поўні, выявілася ў выніках падарожжа Першагерарха БАПЦ Мітрапаліта Ізяслава Кіяў і ягоных дамоўленьнях із Сьв. Патрыярхам УПЦ Філарэтам ды з В.Прсв. Архіяпіскапам Серафімам у справе дапамогі зь іхнага боку ў адбудове БАПЦ на Беларусі.

У вабліччы гэтых асягненьняў нельга й нам, праваслаўным беларусам не на паперы, але кожнаму ў душы прыракчы не змарнаваць, без заслугі дадзеную нагоду зрабіць нашае адраджэньне нятолькі, як дасюль сьвецкімі ідэямі роджаным паймкненьнем, але й праз выяўленую Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою веру ў Бога й Ягоныя наказы умацаванай непераможнай сілай Знайвышшняе Справядлівасьці.

Ці здабудземся мы на гэта, ці, забыўшыся на сваркі, скарыстаем з гэтае, апошняе мо, нагоды ўзнавіць нашую родную Праваслаўную Царкву ў Краі, а таму што безь Яе ня можа быць дзяржаўнае незалежнасьці, адрадзіць і Беларускае Гаспадарства?!

Адказ, Дарагія Суродзічы, за Вамі!

Барыс Данілюк

ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 9-й Г. РАНА.

СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.

ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАВАЦЬ УСПОМНЫЯ СЬПІСКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.

АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

TEL. (718) 875-0595. TEL/FAX (732) 873-8026.

ДАЕЗД ПАДЗЕМКАЙ ЛІНІЯМІ "A", "C", "G" ДА "HOYT-SCHERMERHORN ST"., АБО "2", "3", "4", "5" ДА "NEVINS ST.".

# 40 ГОД КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ, ЗША (1957-1997)

ЗДЫМКІ ЗЬ МІНУЛАГА Й СУЧАСНАГА



Архіяпіскап Васіль
1900 - 1970



Вугольны камень першага будынку на мейсцы Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага быў пакладзены ў 1850-м годзе парахвіяй Сьв. Пётры Япіскапальнае (Англіканскае) Царквы. У 1857-м годзе ён быў прададзены Рэфармаванай, а ў 1863-м перапрададзены Задзіненай Прэзьбітэрыянскай Царкве. На ўмураванай у сьцяну цяперашняга будынку пліце пачатак будовы пазначаны 1902-м годам.

На верхнім здымку сёньняшні выгляд Сабору, у сподзе грамада вернікаў пасьля першае Сьв. Літургіі.





Мітр. Прат. Хведар Данілюк
Заснавальнік Парахвіі

# НЯЗРЫНУТЫ НЯГОДАМІ

## ЗЬ МІНУЛАГА ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

Пачатак і існаваньне Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне - неадлучная частка гісторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды стадыя ў змаганьні Беларускага Народу за стварэньне гэтае Царквы ў собскай дзяржаве.

Завязі гэтага змаганьня сягаюць недасьледаваных яшчэ выяваў супраціву царкоўнаму падпарадкаваньню Кіяўскай Мітраполіі ў пару нашых даўніх княстваў.

З гэтых-жа завязяў яно далей высьпела ў навагу й спробы ўстанаўленьня асобнае собскае Мітраполіі ў Вялікім Княстве Літоўскім, а пазьней выявілася ў абвешчаньні аўтакефаліі на Саборы, ці Кангрэгацыі, што быў скліканы ў Пінску ў 1791-м годзе.

Ягонымі выявамі было й адважнае намаганьне вылామацца з маскоўскае царкоўнае няволі магілёўскага архіяпіскапа Варлаама Шышацкага ў 1812-м годзе, а таксама крокі да адбудовы аўтакефаліі зробленыя пад кіраўніцтвам Мітрапаліта Мэльхісэдэка ў пачатку, ды япіскапа Філарэта ў канцы 20-х гадоў гэтага стагодзьдзя.



У сярэдзіне Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

Іканастас паводле праекту Барыса Данілюка выкананы Іванам Чыгіровічам і Пётрам Мельяновічам.

Іконы ў іканастасе намаляваныя мастаком Зьмітрам Чайкоўскім.

Завяршальным этапам у фармаваньні сканкрэтызаванае ідэі й мэты гэтага змаганьня было абвешчаньне аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы на Саборы ў Менску ў 1942-м годзе ды, пасьля зрады й адступства япіскапаў гэтае Царквы ў 1946-м годзе, узнаўленьне Ейнага япіскапату ў 1948-49-м гадох.

Повязь зайснаваньня Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне з гэтымі гістарычнымі падзеямі відная з таго, што ейным заснавальнікам быў удзельнік Менскага Сабору ў 1942-м годзе - мітр. прат. а. Хведар Данілюк, а парахвіянамі найбольш сталі былыя вернікі парахвіяў БАПЦ ува ўцякацкіх лягерох амэрыканскае й францускае зонаў Нямеччыны.

Памяткай-жа лучнасьці з тымі, ува ўмовах уцякацкага жыцьця зробленымі, пачатнымі крокамі да ўзнаўленьня й захаваньня БАПЦ застаюцца на зрэбным палатне, зь нястачы хварбы ў той час бяз грунтоўкі, намаляваныя мастаком Зьмітрам Чайкоўскім для лягернае царквы ў Розэнгайме абразы Збаўца й Божае Маці, што ўжо сорак год займаюць галоўныя мейсцы ў іканастасе нашае бруклінскае сьвятыні.

Я ня быў яшчэ ў Амэрыцы, калі а. Хведар Данілюк увосені 1950-га году адправіў першую Божую Службу ў Брукліне й не знайшоў даты, калі гэта адбылося.

Але, калі ўрэшце апынуўся ў ЗША ў канцы лютага 1951-га году, адправы ўжо адбываліся кожнае нядзелі ў Беларускай Хатцы на Ashford Street у Брукліне.

Беларускай Хаткай называлася тады найнятая крама б.м. 5 х 6 мэтраў вялічыні, збоку якое была кухня й пакойчык, якія займаў тады кампазытар праф. Мікола Куліковіч, што кіраваў царкоўным і сьвецкім хорам.

У краме йшлі нятолькі адправы, да якіх трэба было разстаўляць і ўзноў складаць уладжаньне, але й адбываліся сходы й нарады ўсіх, што тады ўжо зайснавалі арганізацыяў, ды нават і таварыскія пачастункі.

Матарыяльнымі справамі новастворанае парахвіі займаўся камітэт, старшынём якога быў праф. Мікалай Дарашэвіч, скарбнікам др. Аляксандар Орa, а сябрамі, здаецца, Міхась Тулейка й Янка Ніхаёнак.

Улетку 1951-га году прыехаў у ЗША і пасяліўся ў Брукліне сьв. пам. тады яшчэ япіскап Васіль і, з прэстыжных ды практычных прычынаў давялося шукаць больш адпаведнага за краму мейсца на архірэйскія адправы, а разам і на грамадзкія патрэбы.

З гэтай мэтай быў створаны камітэт куплі рэлігійна-грамадзкага будынку на чале з праф. М. Дарашэвічам ды Данілам Клінцэвічам - скарбнікам.

Збор грошай, аднак, ішоў марудна, а пошук аб'екту яшчэ памалей і япіскап Васіль, выпадкова сустрэўшыся йзь сьвятаром карпатарускае парахвіі зь юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату, дамовіўся служыць разам зь ім у ягонай царкве на Іст 4-й вуліцы ў Мангатане.

Гэткім чынам з канца 1951-га, ці пачатку 1952-га году ачоленыя уладыкам Васілём адправы нашая парахвія пачала наведваць у Сьвята-Траецкай карпатарускай царкве, а таму, што ў ёй ўжо засталося вельмі мала вернікаў - старых украінскіх эмігрантаў, туды перанёсься й цэнтр беларускага грамадзкага жыцьця ў Нью Ёрку, а Беларуская Хатка была зачыненая.

Паколькі тут здарыла ўжыць словы "старая эміграцыя", нельга абыйсьціся, каб праз яе крыху не сказаць.

Вось-жа, мадзеючы ўва ўцякацкіх лягерох у Нямеччыне й шукаючы мейсца на пасяленьне, мы, хоць і не атрымоўвалі, як іншыя нацыянальнасьці, дапамогі ад нашых землякоў зза акіяну, але ўсё-ж спадзяваліся сустрэць ад іх пасьля прыбыцьця ў Амэрыку хоць крыху спагаднасьці, ці маральнае падтрымкі.

## НЯЗРЫНУТЫ НЯГОДАМІ

(ПРАЦЯГ ЗЬ 9-е БАЧ.)

Запраўднасьць, нажаль, паказала зусім іншае - нашая старая эміграцыя была нятолькі зрусыфікаваная, але й фанатычна збальшавізаваная ды да нас варожая.

Сталася-ж гэта праз верную паслужніцу маскоўскага імпэрыялізму - Расейскую Праваслаўную Царкву ў Амэрыцы.

Гэтага, пэўна, ня было-б, каб беларусы адразу пасьля І-е сусьветнае вайны, як гэта зрабілі ўкраінцы, заснавалі сваю аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў Амэрыцы ды ахапілі ёю старую эміграцыю

З гэтае нашае трагэдыі вынікае навука праз неабходнасьць існаваньня патрыятычна настроенае й незалежнае ад вонку Беларускае Праваслаўнае Царквы для выжыцьця нацыі ды трываласьці дзяржавы, якую нашыя палітыкі ніяк ня могуць зразумець.

Варочаючыся да гісторыі парахвіі варта адцеміць, што праф. М. Кулікович яшчэ ўлетку 1951-га году адыйшоў ад кіраваньня хорам і гэтую справу перайняла Галіна Ганчарэнка, якая выявіла сябе таленавітым рэгентам нятолькі царкоўнага, але й сьвецкага хору, што з посьпехам выступаў, як на беларускіх, гэтак і на міжнацыянальных імпрэзах.

Пасьля ейнага выязду на працу ў Радыя "Вызваленьне" ў Эўропе, кіраўніцтва хору абняў і доўгі час, хоць і зь перапынкамі, выконваў Андрэй Каптуровіч.

У гэтых перапынках заступаў яго Міхась Тулейка, які ўрэшце перайняў кіраваньне хорам настала й выдатна выконваў гэты абавязак праз шмат год.

11-га красавіка 1952-га году парахвія была інкарпараваная (зарэгістраваная), зь нястачы асобнага закону для беларускіх цэркваў, паводле артыкулу VIII-га правоў аб рэлігійных карпарацыях штату Нью Ёрк, што датычыў Украінскае Праваслаўнае Царквы.

Гэта ня значыла, што яна стала часткай Украінскае Праваслаўнае Царквы, але прыйнятыя штатам у дачыненьні да тае царквы рэгуляцыі датычылі й нас.

У 1954-м годзе былі першыя рэгулярныя выбары Парахвіяльнае Рады й яе ачоліў інж. Мікалай Гарошка.

Стараньнем гэтае Рады было пачатае выдаваньне "Голасу Царквы", надрукаваны першы насьценны каляндар ды зарганізаванае кожнагадовае абыходжаньне дамоў парахвіянаў з вадохрышчанскай вадою.

Усталяваньне амаль нармальнага парахвіяльнага жыцьця ў падсусядстве мела, аднак, і адмоўны бок, а гэта тое, што збор грошай на свой будынак ды ягоныя пошукі амаль спыніліся.

І калі ўлетку 1956-га году кіраўнік і фактычны собсьнік царквы на Іст 4-й вуліцы, сьвятар Іван Фядына, пасьля раптоўнае хваробы памёр, ягоная сям'я, усупраць спадзяваньняў, спытала за будынак цану, на якую нашая парахвія не магла здабыцца.

У выніку мы на колькі часу засталіся без памешканьня на адправы й толькі крыху пазьней знайшлі ды пачалі нядзелямі наймаць залю ў пратэстанцкай Labor Temple на Іст 14-й вуліцы ў Мангатане.

Гэтая бяда амаль ня скончылася распадам парахвіі, бо паварот да памятных зь Беларускае Хаткі абставінаў ды нявіднасьць магчымасьці набыцьця свайго будынку неахвоцілі вернікаў, з чаго й наведваньне адправаў ды грашовыя ахвяры моцна паменшалі.

Усё-ж, у гэтай крызыснай сытуацыі нашая грамада ўрэшт схамянулася й пасьля рэарганізацыі камітэту куплі рэлігійна-грамадзкага будынку збор грошай ды пошукі аб'екту ўзмоцніліся.

Па нейкім часе, дзякуючы знаёмствам Кастуся Мерляка з амэрыканцамі гэтыя пошукі скончыліся пасьпяхова й у 1957-м годзе быў куплены будынак прэзьбітэрыянскае царквы пры 401 Atlantic Avenue ў Брукліне, дзе й цяпер наш Сабор знаходзіцца.

Будынак быў у страшным стане, але й ягоную цану 25 000 дал., заплаціўшы 11 000 наяўнымі ды выдаўшы яшчэ некалькі тысячаў на новую страху, агравальную сыстэму й электрычную інсталяцыю, давялося сплачваць яшчэ 15, ці 20 год.

Ня маючы больш грошай, каб заплаціць за ўпарадкаваньне будынку, беларуская грамада ўзялася рабіць папраўы талакою й, дзякуючы ўспалу ахвярнасьці ды дабраахвотнасьці, працягам некалькі месяцаў давяла яго да годнага стану.

Працай кіраваў адумыслова створаны камітэт, старшыня якога, Янка Ніхаёнак, прысьвяціўшы шмат часу й собскіх выдаткаў, выдатна выканаў ягоны абавязак, за што яму належыцца заўсёдная ўдзячнасьць.

На гэткую-ж удзячнасьць за іхную працу заслугоўвае й нямала іншых парахвіянаў і беларусаў зь Нью Ёрку ды ваколіцаў, якіх зашмат каб гэтта паймення пералічыць.

Зладная й натужная праца ўсяе грамады, як ужо сказана, неўзабаве дала добры вынік і ўжо 3-га лістапада 1957-га году стала магчымым першы раз адправіць у будынку Сьв. Літургію.

Гэты дзень, 40 год ад якога мы цяпер адзначаем, і застаўся ў памяці як пачатак існаваньня Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

Уладжаньне будынку працягвалася, аднак, і пасьля гэтае даты: напрыклад іканастас паводле праекту Барыса Данілюка, выкананы рукамі Івана Чыгіровіча, а найбольш Пётры Мельяновіча, быў скончаны ажно на Вялікдзень 1959-га году.

Ня гледзячы на гэта парахвіяльнае й грамадзкае жыцьцё, займеўшы даволі прасторную собскую гасподу, узварухнулася ды неўзабаве стала вельмі актыўным.

Царкоўным жыцьцём пад наглядам уладыкі Васіля займалася Парахвіяльная Рада пад старшынствам Міхася Тулейка, а пазьней Івана Казьлякоўскага.

У 1960-м годзе ў саборы адбыўся ўстаноўчы зьезд Амэрыканскае Япархіі БАПЦ, а ў 1961-м Асамблея Штату Нью Ёрк прыйняла XVIII-ты артыкул закону аб рэлігійных карпарацыях, што ўрэгуляваў праўнае становішча нашае Царквы ў ЗША ды паводле якога Япархія зараз-жа была інкапраравaная.

У 1964-м годзе паводле гэтага закону была рэінкарпараваная й парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

Грамадзкім жыцьцём кіравала Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Згуртаваньне Беларускае Моладзі, жаночая й вэтэранская арганізацыі.

Урадаваньне гэтых арганізацыяў і ўсе амаль ладжаныя імі нарады, зьезды й урачыстасьці адбываліся ў залі ды канцылярыі рэлігійна-грамадзкага цэнтру, як у той час яшчэ наш царкоўны будынак называўся.

Працавала й сыботняя школа для дзяцей.

Пры ўсім гэтым уздыме й росьцьвіце была занядбаная

---

**ВІНШУЕМ УСІХ ВЕРНІКАЎ, СЬВЯТАРОЎ БАПЦ**
**І БЕЛАРУСАЎ АМЭРЫКІ**
**З 40-мі ЎГОДКАМІ ПЕРШАЙ СЬВЯТОЙ ЛІТУРГІІ**
**Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ Ў НЬЮ ЁРКУ!**
**НЯХАЙ ВАШАЯ САМААХВЯРНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
**НА КАРЫСЬЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ**
**БУДЗЕ СЛУЖЫЦЬ НАМ ДОБРЫМ ПРЫКЛАДАМ**
**І НАДАЛЕЙ.**

РЭДАКЦЫЯ І СЯБРЫ "ТЫДНЁВІКА МАГІЛЁЎСКАГА"
(ЛЮДЗІ РОЗНЫХ ВЕРАВЫЗНАНЬНЯЎ)

вельмі важная справа, а гэта патрэба набыцьця пры царкве жыльлёвага дому для кліру й затрымкі гасьцей, што можна было тады зрабіць адно за 5 000 дал., а нястача якога дасюль застаецца вялікай перашкодай у дзейнасьці парахвіі.

На тое мейсца нашае грамадзтва неўзабаве разшчодрылася на парусоттысячную роскаш - куплю лецішча Бэлэр-Менск, што пазьней прынясло больш сваркі ды клопатаў, як карысьці.

Азіраючыся ў мінулае даводзіцца сказаць, што канец 50-х - пачатак 60-х гадоў быў парою найвышэйшага ўздыму актыўнасьці й асягненьняў беларускае эміграцкае калёніі ў Нью Ёрку, улучна з нашай парахвіяй, пасьля чаго пачалося спаволеньне ды нават і клопаты..

Сыгнальнай падзеяй настаньня гэтае пары была сьмерць у 1960-м годзе заснавальніка парахвіі - айца Хведара Данілюка, нястача выніклых з трыццацігадовае сьвятарскае практыкі парадаў якога неўзабаве балюча выявілася ў парахвіяльным жыцьці.

Тады-ж, дзеля агульнага заняпаду амэрыканскіх месцаў, а побач і з палепшаньнем матэрыяльнага становішча беларускіх эмігрантаў, пачаліся іхныя пераборы на ўскраіны Нью Ёрку, а нават і зусім паза места.

Горш, аднак, за гэта было тое, што не пасьпеўшы яшчэ дабудаваць наш рэлігійна-грамадзкі цэнтр, у нашай грамадзе знайшліся людзі, што пачалі гэты цэнтр руйнаваць і развальваць.

Праўда, завадатыя на гэта спатрэбіліся звонку й яны неўзабаве зьявіліся, а нашае грамадзтва, забыўшыся на свае бясконцыя нараканьні на варожую зраднасьць, ня прыглядаючыся гэтых няведамцаў прыйняло й дапусьціла да ўлады.

Найбольш наіўным і даверлівым у гэтай справе выявіў сябе сьв. пам. архіяпіскап Васіль, што нятолькі адразу дазволіў прыйняць нявыверaных парахвіянаў, але й, не зважаючы на асьцярогі ад добра паінфармаваных асобаў, на аснове сумнеўнае вартасьці даведак з польскае й маскоўскае юрысдыкцыяў дапусьціў да ўдзелу ў адправах быццам-дыякана Юрага Абрэмскага.

Горкіх вынікаў гэтае памылкі не давялося доўга чакаць.

Хітрымі намовамі пры шчодрых пачастунках алкаголям гэты прайдзісьвет зь ягонымі супольнікамі апанаваў амаль цалком Парахвіяльную Раду, якая дамагалася ад уладыкі Васіля ўсьвяціць яго ў сьвятарскі стан ды, пасьля таго, сама паставіла на кіраўніка, ці, інакш, на настаяцеля парахвіі.

Уладыку Васілю была спыненая мізэрная заплата, якую ён ад парахвіі атрымоўваў, ягоны ўдзел у адправах быў узалежнены ад ласкі йлжэ-настаяцеля, ды ўрэшт нават уваход у царкоўны будынак яму й лаяльным парахвіянам быў зачынены ды забарыкадаваны.

Давялося зьвярнуцца ў амэрыканскі суд, які на аснове XVIII-га Артыкулу Закону аб Рэлігійных Карпарацыях Штату Нью Ёрк, што датычыць БАПЦ, звонку падбухтораную самаволю Парахвіяльнае Рады спыніў, хоць да выкананьня прысуду спатрэбілася дапамога паліцыі.

Не асягнуўшы цалком іхнае зьнішчальнае мэты бунтаўнікі з часткаю збаламучаных парахвіянаў выйшлі з парахвіі.

Гэтым выхадам, а мо й пазьнейшым паваротам ашуканых бяда й скончылася-б, калі-б яе не наважыў выкарыстаць для сваіх мэтаў адзін з эміграцыйных "палітыкаў".

Прыехаўшы ў 1954-м годзе з Аргентыны ў ЗША йз славай дзеяча Кастусь Мярляк адразу-ж атрымаў шырокія магчымасьці працы на кіраўнічых становішчах у нацыянальнай і грамадзкай дзейнасьці беларускае эміграцыі ў Амэрыцы і, ніхто не запярэчыць, нямала зрабіў ды асягнуў.

**АД ІМЯ ЎСІХ ВЕРНІКАЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ БАПЦ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ВІНШУЕМ ВАШАЕ ВЫСОКАПРЭАСЬВЯШЧЭНСТВА, КЛЕР І ПАХВІЯНАЎ САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА З 40-ГОДЗЬДЗЕМ ПЕРШАЕ АДПРАВЫ СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў БУДЫНКУ КАТЭДРЫ.**

**ЗЫЧЫМ УСІМ ВАМ ЛАСКІ І ДАПАМОГІ БОЖАЕ Ў ЦАРКОЎНЫМ ЖЫЦЬЦІ ДЫ АСАБІСТЫХ СПРАВАХ.**

**З ГЛЫБОКАЙ ПАШАНАЙ (ПОДПІСЫ). МЕНСК**

Нажаль, разам зь ягонай здольнасьцяй да дзейнасьці й актыўнасьцяй у ёй, выявілася й недастатковая дыпляматычнасьць з супрацоўнікамі, у выніку чаго пасьля некалькі год ягоная кар'ера як арганізацыйнага кіраўніка й палітычнага лідэра зайшла ў клін.

Амбіцыя, аднак, не дазволіла яму з гэтым пагадзіцца й ён абяртаецца ў абаронца быццам пакрыўджаных уладыкам Васілём і ўсімі іншымі разбуральнікаў парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ды, заснаваўшы зь імі Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне, стварае гэтай авантуры від легітымнасьці.

Засталося падобную легітымнасьць знайсьці па лініі царкоўнай і ёю становіцца "кананічнасьць", прыдбаная праз падпарадкаваньне абыякавай, у найлепшым выпадку, да нашых царкоўных і нацыянальных паймкненьняў юрысдыкцыі канстантынопальскага патрыярха.

Гэткі гонар, ведама, дарма ня прыходзіць і ці аднаму з тых, што шкадавалі дзясяткі, або сотні на куплю Сабору, давялося, адыйшоўшы ад яго, вылажыць паважныя сумы на будову новае царквы, якую, як-бы ня было іншых беларускіх сьвятых, таксама назвалі ймём Сьв. Кірылы Тураўскага.

Нажаль, пры малым прыбытку імігрантаў з Краю, даўгавечнасьць беларускасьці тае парахвіі сумнеўная, а ейнае дабро ўканцы пойдзе ў спадчыну на й так багатую іншанацыянальную царкоўную ўладу.

У рукі тае-ж улады пяройдзе й перапісанае на яе лецішча Бэлэр-Менск.

Не адным, аднак, матарыяльным выдаткам тая кананічнасьць абыйшлася, бо апынуўшыся ў ёй даводзіцца маўчаць праз беларускую аўтакефалію ды не чапаць, а чэсьціць маскоўскага патрыярха, ці ягонага экзарха ў Беларусі.

Аб гэтым усім, нажаль, не гаварылася й не гаворыцца ў быццам незалежніцкай эміграцыйнай прэсе, з чаго Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ды Ейныя антыподы - беларускія паводле складу вернікаў, а падпарадкаваныя нядбайным празь існаваньне беларускае нацыі ды званым кананічнымі юрысдыкцыям парахвіі, ставяцца ў нашым нацыянальным адраджэньні на адзін узровень вагі..

Да ўсяго гэтага варта дакінуць, што, калі падзел стаў канчатковым, ягоны завадатай Юры Абрэмскі зьнік, але затручаныя ім міжбратнія дачыненьні ў беларускай грамадзе засталіся на цэлае пакаленьне.

Ды яшчэ нельга ня ўспомніць, што від і адчуцьцё злосьці паміж старэйшымі адштурхнуў ад царквы й беларускае справы нямала моладзі.

Рана, якую дазнала ад гэтага ўструсу нашая парахвія ня была, аднак, сьмяротнай і неўзабаве жыцьцё ў ёй, дбайна дагляданае Парахвіяльнай Радай пад старшынствам Міхася Тулейкі, вярнулася да нармальнага стану.

Гэты нармальны стан, нажаль скалынула ды зьначыла нечакаканая сьмерць зь нявыясьненых прычынаў сьв. пам. Архіяпіскапа Васіля 6-га чырвеня 1960-га году.

У выніку ягонае сьмерці кіраўніцтва япархіі БАПЦ ў

## НЯЗРЫНУТЫ НЯГОДАМІ

(ПРАЦЯГ З 11-е БАЧ.)

ЗША абняў Япіскап Андрэй і ейны цэнтр перанёсься ў Кліўлэнд.

У Брукліне засталася адно рэдакцыя часапісу "Голас Царквы", якою кіраваў ды найбольш абавязкаў у ёй выконваў Міхась Міцкевіч.

У 1972-м годзе, пасьля таго як памёр Архіяпіскап Сергі, на ягонае мейсца на саборы ў Гайлэнд Парку Першагерархам БАПЦ быў выбраны Архіяпіскап Андрэй з годнасьцяй мітрапаліта.

Становішча кіраўніка парахвіі пасьля сьмерці Архіяпіскапа Васіля абняў а. Карп Стар і тут шкодна адчулася нястача царкоўнага памешканьня для сьвятара, бо пасьля трохгадзіннага даезду на адправы, пры найлепшай ахвоце, ня было часу на дагляд усіх парахвіяльных справаў на мейсцы.

Парахвіяльную Раду ў гэтым часе ачольваў інж. Мікалай Гарошка, зь ініцыятывы якога й было ў 1973-м годзе пачатае выдаваньне "Царкоўнага Пасланца", спачатку ў сьціплай форме аднабачынавага бюлетэню.

З адкрыцьцём парахвіі БАПЦ у Дораты, Н.Дж., у 1974 -м годзе й прызначэньнем туды а. Карпа Стара, кіраўніком парахвіі нашага Сабору стаў а. Васіль Кендыш.

І гэтта ўзноў, ня глядзячы на ягоную ахвярнасьць, даезд ажно йз штату Масачусэтс, не даваў магчымасьці штодзённа займацца парахвіяльным жыцьцём там, дзе яно йшло.

Усё-ж, ухвала праз узвышэньне БАПЦ у мітраполію ды выяўленыя новым Першагерархам кіраўнічыя здольнасьці, разам з даволі частымі ягонымі й архіяпіскапа Мікалая архіпастырскімі наведамі, узьнялі настрой вернікаў нашае парахвіі, што давала задатак на ейную добрую будучыню.

У гэтым часе, нажаль, адыйшлі два выдатныя царкоўныя працаўнікі - у 1976-м годзе памёр інж. М. Гарошка, а ў 1978-м, пасьля параразовага старшынства Парахвіяльнае Рады й шматгадовага кіраўніцтва хорам пайшоў на спачын ды выехаў зь Нью Ёрку Міхась Тулейка.

Старшынём Парахвіяльнае Рады пасьля гэтага стаў Аляксандар Міцкевіч, а дзякоўскія абавязкі абняў Барыс Данілюк.

Ажыўленьне й узмацненьне ўсяе БАПЦ, а зь Ею й парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага не засталося незаўважаным сіламі, якім гэта ня было па мысьлі й неўзабаве ўзноў пачалася, як і раней, нікім непрадбачаная атака на гэтыя ўстоі незалежніцкага беларускага царкоўнага руху.

Ейным папярэджальным знакам, праўда, была раптоўная й паказальная пабожнасьць аднаго з дасюль рэлігійна абыякавых парахвіянаў, а разам зь ёю й ягоная таварыская актыўнасьць, што неаднаразовымі пачастункамі пасьля адправаў з мацнейшым за воду пітвом прыкрывала вярбоўку прыхільнікаў.

Зачэпам-жа да новае атакі стаў загаданы Мітрапалітам Андрэям пераезд сьвятара, што кіраваў парахвіяй у Гайлэнд Парку, Н.Дж., Аляксандра Яноўскага на парахвію ў Кліўлэньдзе, Огаё.

Прычынамі пераносу былі як патрабаваньні гэтага ад кліўлэндзкае парахвіі, гэтак і атрыманыя ад парахвіянаў з Гайлэнд Парку жальбы на крыўды ад сьвятара Яноўскага, ды ўрэшт патрэба ўладжаньня на багаведную навуку кандыдата на япіскапа а. Яна Бруцкага й ягонага ўтрыманьня.

Гэты апошні намер Першагерарха й выклікаў акцыю нятолькі недапушчэньня да хіратоніі а. Бруцкага, але зьвярненьня з пасаду самога Мітрапаліта Андрэя, у якую, забыўшыся на прысягу, улучыўся й выслужны ўладзе архіяпіскап Мікалай.

Гэтай-жа, настроенай на ліквідацыю япіскапату БАПЦ уладай, выявілі сябе некаторыя дзеячы палітычнага кіраўніцтва эміграцыі, якім, зь няўцямных на здаровы розум мяркаваньняў, патрэбная або на маскоўскі лад сьлепа паслухмяная ім "праваслаўная" царква для масаў, або ніякая.

Ужыцьцяўленьне гэтае палітыкі й пачалося йзь зьездаў з'агітаваных цалком абнятымі успомненай уладай каналамі інфармацыі актывістаў перавароту ды, калі гэткім чынам не ўдалося зламаць навагу архіпастыра, няпраўна пастаноўленымі парахвіяльнымі сходамі ў Гайлэнд Парку, Кліўлэньдзе й Дэтройце зваротамі да архіяпіскапа Мікалая па прыйме пад ягоную апеку, якія ён, наўсуперак царкоўным правілам, ахвоча задаволіў.

Архіяпіскап Мікалай, пад ціскам тае-ж эміграцыйнае ўлады, паймкнуўся не дапусьціць да ўхвалы Рады БАПЦ на хіратонію а. Яна Бруцкага, што, як і ягоны асабісты пратэст у гэтай справе перад першагерархам УПЦ, яму не ўдалося й 21-га лютага 1981-га году кандыдат быў Мітрапалітам УПЦ Мсьціславам, Мітрапалітам БАПЦ Андрэям і Архіяпіскапам УПЦ Арэстам усьвячаны ў так патрэбнага япіскапа БАПЦ.

Ад намаганьня зьвярнуць япіскапат БАПЦ не засталася збоку й Парахвіяльная Рада Сабору ды, з'агітаваная ўжо ўспомненым разбуральнікам, усуперак мае прапановы абмежыць справу сьвятара Яноўскага рамамі парахвіі ў Гайлэнд Парку, узяла ўдзел у зарганізаваных супраць Мітрапаліта Андрэя зьездах улетку 1980-га году ў Кліўлэньдзе.

Ідучы сьледам папярэдніх правапарушальнікаў яна, без неабходнага дазволу духоўных уладаў, склікала надзвычайны парахвіяльны сход, на якім пад старшынствам таго-ж завадатая бальшынёй галасоў тады толькі й бачаных парахвіянаў, было пастаноўлена перайсьці пад апеку архіяпіскапа Мікалая.

Япіскапату БАПЦ, кіраўніку парахвіі й нязгодным з гэтай пастановай парахвіянам давялося зьвярнуцца ў амэрыканскі суд, які яе, як супярэчную XVIII-му Артыкулу Закону аб Рэлігійных Карпарацыях Штату Нью Ёрк, уняважніў.

Выбраная на няпраўным надзвычайным сходзе "парахвіяльная рада" на чале з Аляксандрам Міцкевічам судоваму загаду, аднак, не падпарадкавалася ды, захапіўшы парахвіяльную касу, разам зь ейнымі прыхільнікамі адыйшла, выконваючы гэтым частку варожага пляну ліквідацыі БАПЦ.

Прабуючы заладзіць канфлікт Мітрапаліт Андрэй й Япіскап Ізяслаў сем разоў пасылалі архіяпіскапу Мікалаю запросіны на паседжаньні Сабору Япіскапаў, на якія ён адказваў або маўчаньнем, або павучальнымі й абразьлівымі лістамі.

Гэткія ягоныя адказы падтрымалі ягоныя прыхільнікі, "пахрысьціянску" двойчы парэзаўшы Япіскапу Ізяславу ўсе шыны ў самаходзе, калі той прыяжджаў на нарады да Мітрапаліта Андрэя ў Кліўлэнд.

Неўзабаве аб'ектам падобных узьдзеяньняў стаў і сам Мітрапаліт Андрэй - актывісты мікалаяўскага руху фізычна не далі яму выконваць адправы ў кліўлэндзкай царкве, а ў кватэры ў парахвіяльным доме ўзімку вылучылі ацяпленьне.

У выніку Мітрапаліт Андрэй у пачатку 1983-га году пераехаў да лаяльных вернікаў у Нью Джэрзы й пачаў служыць у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Пераканаўшыся, што архіяпіскап Мікалай ня пойдзе на заладжаньне канфлікту йнакш, як на ўмовах супярэчнае канонам і царкоўным правілам ды традыцыям поўнае капітуляцыі іншых герархаў, Сабор Япіскапаў БАПЦ, пасьля ранейшага папярэджаньня, 5-га лютага 1983-га году канчаткова пазбавіў яго япіскапскае й духоўніцкае годнасьці.

Сабор таксама прызначыў Япіскапа Ізяслава заступнікам мітрапаліта ды ўзьняў яго ў годнасьць архіяпіскапа.

У адказ на зьняцьце духоўніцкае годнасьці былы архіяпіскап Мікалай - цяпер ужо вернуты ў цывільны стан Міхайла, ці Міхась Мацукевіч разсылае ягоным прыхільнікам пакліканьні на "надзвычайны сабор БАПЦ" у канцы травеня 1983-га году ў Кліўлэньдзе, які Сабор Япіскапаў БАПЦ забараняе.

На бяду 21-га травеня 1983-га году на коратка занядужаўшы паміраe Мітрапаліт Андрэй і няпраўна скліканае М. Мацукевічам зборышча пераважна зьбаламучаных ягоных прыхільнікаў выбірае гэтага раскольніка на "першагерарха БАПЦ", а Архіяпіскапа Ізяслава абвяшчае нябеларускім япіскапам (!).

Паколькі-ж усе беларускія эміграцыйныя пасяродкі інфармацыі былі ў распараджаньні палітычных дзейнікаў, чые загады М. Мацукевіч выконваў, гэтая непаважная падзея, усупраць праўды, была агалошаная імі як легальны акт.

Гэтымі-ж дзейнікамі быў заблякаваны доступ да беларускага

грамадзтва вестак праз IV-ты чарговы Сабор БАПЦ, скліканы заступнікам Мітрапаліта Андрэя й Кансысторыяй БАПЦ у травені 1994-га году ў Манчэстары ў Англіі, на якім згодна з правіламі выбранымі дэлегатамі на пасад Першагерарха БАПЦ з тытулам Мітрапаліта быў пастаўлены Архіяпіскап Ізяслаў.

Інфармацыйная блякада, аднак, на гэтым ня скончылася - калі пагартаць эміграцыйныя газэты, ці ўспомніць радыёперадачы за мінулыя больш як 15 год, у іх нідзе й ніколі ня знойдзецца успаміну праз запраўдную БАПЦ, ані праз жыцьцё верных Ёй парахвіянаў у Брукліне, ды ў Англіі й Аўстраліі.

Дарэчы ўспомніць, што зза гэтае блякады мала хто й уведаў, што сьвятар Яноўскі, праз якога быццам калатня ўзьнялася, як толькі падзел стаў непаваротным, падаўся ў чужую юрысдыкцыю.

І навошта-ж тады наракаць на белыя плямы спрычыненыя нашай гісторыі бальшавікамі, калі самыя нягоршыя на гэта майстры?!

Ведама-ж, ад інфармацыйнага байкоту жыцьцё парахвіі Сабору не замерла, як няпрыхільнікі агалошвалі, але пад кіраўніцтвам Я.М. Мітрапаліта Ізяслава й даглядам ачоленае др. Расьціславам Гарошкам Парахвіяльнае Рады йшло нармальнай каляінай.

Трагічным вынікам гэтае блякады была, нажаль, або поўная непаінфармаванасьць, або дэзынфармацыя аб справах нацыянальнае Праваслаўнае Царквы, ці БАПЦ сярод беларускага адраджэнскага актыву пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Затое прапаганда павароту да быццам нацыянальнае вуніяцкае царквы, або беларусізацыі Экзархату Расейскае Праваслаўнае Царквы авалодала думкамі немалое колькасьці нашых патрыётаў на Бацькаўшчыне.

Нават пастаўлены эміграцыйнымі палітыкамі на іхнага першагерарха М. Мацукевіч, паехаўшы ў 1992-м годзе на Беларусь, не пакваліўся, ці пабаяўся хоць што-колечы зрабіць, каб пачаць адбудову БАПЦ, а лісьліва папрасіўся стаць "разам і ўпоравень" з маскоўскім экзархам.

Ды й ня дзіва - таго-ж ведамага йз супрацоўніцтва з савецкай уладай і непрыязьні да беларусаў экзарха з хлебам і соляй ды стрэчнымі пасьпевамі віталі ў 1993-м годзе вышлыя з парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага беларускія эміграцыйныя палітыкі й дзеячы ў г.зв. мерляковай царкве.

А скіраваныя да прыездных адраджэнскіх дзеячоў і ўрадавых прадстаўнікоў спробы пачаць гутаркі аб адбудове БАПЦ на Беларусі, якія рабілі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў і Кансысторыя, не прабівалі пастаўленага ўспомненай ужо інфармацыйнай блякадай муру абыякавасьці, а нават і варожасьці.

Усё гэта разам узятае й узважанае стварае ўражаньне нейкае здаўна заплянаванае ды хітра кіраванае акцыі, каб не дапусьціць да ўзнаўленьня БАПЦ на Бацькаўшчыне ды зьнішчыць Яе на эміграцыі, аб чым ніхто сярод нас не задумоўваецца.

Бог, аднак, не бяз ласкі й паспрыяў прыехаць у Амэрыку нятолькі адраджэнскім дзеячам, што дагэтуль з эміграцыйнымі палітыкамі ўзаемна рукі мылі, але й патрыётам, якія разумеюць, што без незалежнае адвонку свае роднае Беларускае Праваслаўнае Царквы ня будзе й свае незалежнае дзяржавы.

Дзякуючы ім наладзіліся сувязі з вернікамі на Беларусі, што гэтае свае роднае Царквы хочуць і чакаюць, ды гатовыя сябе на Ейную адбудову прысьвяціць.

Гэтай вялікай Мэце ды духовай апецы над вернікамі, а таксама ўсялякай магчымай дапамозе прыехалым у ЗША суродзічам, як служыў 40 год нязрынуты нягодамі Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, гэтак, дасьць Бог, будзе яшчэ доўга служыць і надалей.

Барыс Данілюк



**СЬВ. ПАМ.**

**ДЖЫН (АЎГЕН) ЛЫСЮК**

**ПАСЬЛЯ ШМАТГАДОВАЕ АХВЯРНАЕ СЛУЖБЫ БАПЦ, ЕЙНЫ ПРЫКЛАДНЫ ВЕРНІК, АДЫЙШОЎ ДА БОЖАГА ПАСАДУ 6-га ЛІСТАПАДА 1997 г. НА 63-м ГОДЗЕ ЖЫЦЬЦЯ, АБ ЧЫМ, ВЫКАЗВАЮЧЫ СПАЧУВАНЬНІ ЯГОНАЙ СЯМ'І, ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ**

**КАНСЫСТОРЫЯ БАПЦ**
**І ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА**
**КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА**
**Ў БРУКЛІНЕ**

## АДЗНАЧЭНЬНЕ 40-Х УГОДКАЎ САБОРУ

Адзначэньне 40-х угодкаў Сьв. Літургіі, што ўпяршыню была адпраўленая ў будынку Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага 3-га лістапада 1957-га году, адбылося ў нядзелю, 23-га лістапада, сёлета.

Адзначэньне пачалося Сьв. Літургіяй із успамінам усіх памерлых архіпастыраў і пастыраў БАПЦ, ды парахвіянаў Сабору, а усьлед і малітвай за жывых, ды падзячным малебнам за пасланую Богам ласку роднае Царквы й Сьвятыні, якія адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Адправы скончыліся адпяяньнем гімну "Магутны Божа".

Пасьля адправаў парахвіяльнае сястрыцтва частавала ўдзельнікаў ўрачыстасьці багатым буфэтам.

Пачатак юбілейнага канцэрту папярэдзіла прасьба Божага прыяньня сьвятняму сходу, якую змовіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, пасьля чаго хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць памерлых духаўнікоў і парахвіянаў Сабору, ды прапяяная "Вечная Памяць".

Прывітаў прысутных сп. Юры Васілеўскі, далей у ягоным слове адзначаючы вагу веды праз існаваньне роднае Царквы ў адраджэнскім змаганьні на Бацькаўшчыне ды духовую падтрымку, якую родная сьвятыня дае беларускім эмігрантам і падарожнікам, што апынаюцца ў незнаёмым краі.

Ён падзякаваў старэйшаму пакаленьню парахвіянаў за захаваньне, усуперак нягодаў, гэтага пабожнага кутка роднае зямлі й запэўніў, што новая эміграцыя зробіць усё магчымае, каб ён устаяў надалей.

Усьлед сп. Барыс Данілюк падзяліўся з прысутнымі ягонымі ўспамінамі зь мінулага Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, пашыраны зьмест якіх надрукаваныя на 9-13 бачынах гэтага нумару "Ц.П.".

Канцэртная частка пачалася з традыцыйнае ўжо песьні "Пачуй, о, Ласкавая Маці" у выкананьні нашых ведамых артыстаў Валянтыны, Алеся й Вольгі Казакоў, пасьля якое пайшлі беларускія народныя й кампазытарскія песьні, на якія няма лепшых за іх мастакоў.

Пазьней на сцэне іх зьмяніла новая музычная сіла сярод нашае эміграцыі сп-ня Таццяна Дзямешчык, што з прафэсыйнай спраўнасьцяй выканала на піяніне ўсім любы палянэз Агінскага "Туга па Бацькаўшчыне" ды І-ю частку "Месячнае Санаты" Л. Бэтховэна.

Тады й узноў цешыла прысутных роднымі песьнямі сям'я Казакоў.

Як папярэдня, і гэтым разам выканала паангельску й пагішпанску дзьве песьні собскае кампазыцыі Оля Казак, і прыемна было пераканацца, што нядаўні падлетак высьпявае ўжо ў прафэсыйную музычную сілу.

Малітвай і адпяяньнем нацыянальнага гімну скончылася афіцыйная частка ўгодкавае ўрачыстасьці.

(Заканчэньне на 14-й бач.)

## ДА НАС І ПРАЗ НАС ПІШУЦЬ

Перш за ўсё хочам падзякаваць пачынальнікам нашага царкоўнага адраджэньня зь Менску за прысланыя імі прывітаньні й добрыя пажаданьні з нагоды 40-х угодкаў Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, якія ўпэўнілі нас, што йснаваньне нашае Сьвятыні не засталося бязь сьледу на Бацькаўшчыне.

Гэткую-ж падзяку выказваем рэдакцыі "Тыднёвіка Магілёўскага" за ейныя зычлівыя лісты й прывітаньні з тае самае нагоды, а таксама за перадрукаваньне з нашага часапісу артыкулу "Зацемкі аб зьяве "праваслаўнага атэізму".

З водгукаў на падарожжа Я.М. Мітрапаліта Ізяслава ў Кіяў у краёвай украінскай прэсе дасюль мы атрымалі адно выразку з газэты "Вэчірній Киів" за 10-га верасьня г.г., дзе амаль без камэнтараў рэчава пададзеныя факты, што датычаць гэтае падзеі й выніклых зь яе дамоўленьняў.

Таксама рэчава ды прыхільна прадставілі гэтую справу дзьве ўкраінскія газэты, што выходзяць у Амэрыцы: "Свабода" ў зацемцы з 12-га верасьня й "Народна Воля" з 23-га верасьня г.г.

Затое карэспандэнт "Нашае Нівы" сп. Севярын Квяткоўскі, асабіста сустрэўшыся зь Я.М. Мітрапалітам Ізяславам ды паслухаўшы гутарак, што адбываліся ў пачатку верасьня г.г. у Кіяўскім Патрыярхаце, хоць і падаў у газэту за 29-га верасьня рэчава пачаты рэпартаж аб тым, чаго сам быў сьветкам, далей у ягоным пісаньні пусьціўся ў свомае нашым, нядужа рэлігійным, інтэлігентам і адраджэнцам мудрагельства, што, ставячы сьвечкі ўсім цэрквам і сэктам, ды раўнуючы іх, абяртаецца ў круцельства.

Не даходзіць бо да іхнага розуму, што ключавой праблемай у справе нашае дзяржаўнае незалежнасьці ёсьць пытаньне аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы таму, што прэтэнзыі Маскоўскага Патрыярхату да ўлады на нашай Зямлі ня духова-рэлігійныя, а чыста імпэрска-тэрытарыяльныя й бяз зайснаваньня Беларускага Патрыярхату нельга дамагчыся, каб Масква вызнала нашую царкоўную апрычонасьць, а зь ёю й дзяржаўную незалежнасьць.

Масква й падмаскоўны рэжым на Беларусі гэта разумеюць ды абапертымі на бяспраўных законах "аб свабодзе сумленьня й рэлігійных арганізацыях" рэпрэсыямі ймкнуцца задушыць ня рост зза мяжы прыйшлых цэркваў і сэктаў, як гэта шмат каму здаецца, а спробы ўзнаўленьня патрыятычна настроеных аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў Беларускага й Украінскага Народаў.

З сэктамі-ж і замежнымі цэрквамі ў Крамлі майстры справіцца, а калі ня верыце, дык згадайце "ўзьяднаньне" вуніятаў, ці "дабраахвотную" калектывізацыю.

Гэтую няновую трывогу з магчымасьці ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне нядаўна ўзноў выявіў маскоўскі экзарх у Беларусі Філарэт у ягоным абежным лісьце з 27-га кастрычніка г.г. да сьвятароў менскае япархіі, у якім ён між іншым піша (захоўваем мову арыгіналу):

"... По адресам наших приходов и отдельных прихожан раасылаются некие зарубежные издания с целью внести смуту в жизнь Святой Белорусской Православной Церкви. ...

Недавно в Минске начал противозаконно печататся и активно распространяться по Беларуси журнал нью-йоркской БАПЦ "Царкоўны пасланец". Его издатели на страницах журнала обешчают, что к нему в недалеком будушчем будут присоединены и "другие нужные издания". "Царкоўны пасланец" свидельствует о следуюшчих целях БАПЦ:

- организация на территории Беларуси незаконной автокефальной православной церкви путем создания здесь приходов БАПЦ и активной пропаганды идеи автокефалии;

- прямое вмешательство в политическую жизнь Белорусского государства под видом "борьбы за независимость Беларуси".

В сентябре сего года Изяслав встретился в Киеве с лжепатриархом Филаретом Денисенко. Последний, как известно, на Архиерейском Соборе Русской Православной Церкви 1997 г. за учинение раскола в Церкви и нераскаянность в этом был анафемствован.

Между "митрополитом" Изяславом и представителями "иерархии" так называемой Украинской Православной Церкви Киевского Патриархата (УПЦ КП), возглавляемой вышеупомянутым М. А. Денисенко, достигнуто соглашение, в частности. о том, что на территории Украины будет осушчествлятся обучение кандидатов во свяшченство для БАПЦ; одному из "иерархов" УПЦ КП поручено их рукополагать и наставлять в пресвитерской деятельности, поддерживать распространение изданий БАПЦ среди православных Беларуси".

Навярзнуўшы нясусьвеціцаў на БАПЦ і на КП УПЦ маскоўскі інтэграрх падсьцёбвае "чэсьці годных айцоў" ягонае япархіі выяўляць пільнасьць у ахове беларускіх вернікаў ад ілжэнастаўнікаў, першым зь якіх, калі-б было сумленьне хоць-бы глянуць у люстэрка, што яму паднёс былы полацкі япіскап Глеб, ён павінен быў-бы назваць сам сябе.

Бо аблічча як самога інтэграрха, гэтак і ягонага ўладнага апарату ў тым люстэрку - рапарце ўспомненага япіскапа маскоўскаму патрыярху, тэкст якога быў надрукаваны ў "Полоцких епархиальных ведомостях" за студзень 1997-га году вельмі няпрывабнае.

А напісана ў тым рапарце, між іншым, і вось што:

"Встречаясь с белорусской православной паствой и людьми далекими от Церкви, я услышал их многочисленные жалобы на архипастырей и пастырей за их безразличие ко всему: к Богу, к Церкви, к людям. Пробыв некоторое время на кафедре, я воочию убедился в этом сам. Меня поразило страшное состояние, духовное опустошение многих архипастырей, пастырей и их личного окружения: безверие, нецерковность, равнодушие ко всему, корыстолюбие, нажива на горе человеческом, вражда между собой, пьянство, бескультурие, расхишчение и распродажа церковной утвари, "распределение гуманитарной помошчи".

Особое положение во всем этом бесцерковном состоянии занимает митрополит Минский Филарет и его окружение...

Находясь более трех лет на Полоцкой кафедре, я не могу нормально управлять епархией: как приходами, так и монастырем. Экзарх и его команда настраивают всех против меня, льют всякую ложь, разлагают духовенство и монашествуюшчих. ...

Когда я стал призывать сестер и духовенство к церковной жизни, открывать воскресные школы, идти в

## АДЗНАЧЭНЬНЕ 40-Х УГОДКАЎ...

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ З 13-е БАЧ.)

Ейным працягам была яшчэ парагадзінная вечарына, на якой да танцаў памайстэрску гралі Ігар Кавальчук і Іван Каранноў.

Нашым дарагім артыстам і музыкам, што іхнымі выступамі ўпрыгожылі ўгодкавую ўрачыстасьць ды ўсім, што іхнай прысутнасьцяй ушанавалі так важную дату ў жыцьці парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Парахвіяльная Рада выказвае шчырую падзяку.

больницы, учить людей вере православной, пению, чтению, помогать нуждающимся, то от митрополита и его команды в мой адрес посыпались угрозы. На меня стали натравливать сестер и духовенство, распространяя всякие гнусные слухи. ...

Сознавая всю ответсвенность за поданный мною рапорт, я желал бы, чтоб изложенное было страшным сном, чем реальностью, раздирающчей нешвенный Хитон Ризы Господней. В одном из правил св. Василий Великий пишет: "...Иуда, который смерть удавления предпочел постыдной жизни, показал себя едва ли не лучшим тех, которые ныне равнодушно принимают все упреки людей, и потому с бесстыдством готовы на дела гнусные. Не обольщайтесь только их лживыми речами, когда приписывают себе правоту веры. Ибо они христопродавцы, а не христиане; полезное для них в сей жизни всегда предпочитают они жизни истинной. Когда задумали приобрести эту пустую власть, присоединились к врагам Христовым; а когда увидели народ раздраженным, опять налагают личину православия. Не признаю епископом и не причислю к иереям Христовым того, кто оскверненными руками к разорению веры возведен в начальники. ..." (Правила Православной Церкви с толкованиями Никодима, епископа Далматинского-Истрийского, часть II, стр. 611).

Няступалы ў ногу зь мянялами ў бажніцах ды нявельмі разумна спадзеўны на "богомудрие" маскоўскіх "архіпастыраў" япіскап Глеб, як ведама, зьняты з пасаду, нумар "Полоцких епархиальных ведомостей" зь ягоным рапартам канфіскаваны, а мітрапаліт Філарэт бышцам шкадуючы, што "создатели и сторонники группировок, именуюшчих себя "автокефальными ценрквами", обречены на отделение от Святой Христовой Церкви", не шманае, што ён сам праз ягоныя ўчынкі ўжо даўно сябе ад гэтае Сьвятое Царквы адлучыў.

На гэтым мы праз яго на сёньня й спынім гутарку, а дамо слова людзям, што ў ягоныя нягожыя баяньні ня вераць, а шукаюць праўды.

Вось, што кажа ў ягоным лісьце В.:

"Быў рады атрымаць новы нумар "Ц.П.". уяўляю сабе, зь якімі цяжкасьцямі даводзіцца друкаваць адзіны па сутнасьці "глыток роднай веры". Забароны ўлад, а галоўнае недахоп сродкаў перашкаджаюць добрай мэце. Спадзяванне нашае, як і ўсіх людзей, хто шукае, ці шукаў праўды, толькі на Хрыста Збаўцу нашага, зараз цяжкая гадзіна выпрабавання і для Нацыі і для Царквы яе. Калі мы жадаем пашыраць рады вернікаў, трэба больш прапаганды ў газетах, часопісах, лістоўкі на аўтобусных прыпынках. На вялікі жаль большасць насельніцтва бязьверны, ... ім бязрозніцы, якая царква вакол іх. ...

Але ёсць і іншыя, якія знаходзяцца ў душэўным пошуку. Большасць гэтакіх людзей нажаль знаходзяць, што прасцей ляжыць - пратэстанцтва ды іншыя напрамкі. У іх ёсць і грошы, і літаратура, і TV прапаганда і іншае.

У нас застаецца цярпенне, бясконцая вера, спадзяванне на Божую Ласку. Але я заклікаю ўсіх вернікаў БАПЦ да дзеяння. Патрэбны артыкулы ў газеты, лістоўкі на вуліцы, асабістая прапаганда.

Нам патрэбна сустракацца, дасканаліць сваю веру, веды. Я лічу гэта вельмі важным. Прашу падумаць над гэтым.

Напішыце, калі ласка, куды можна прынесці нашыя невялікія ахвяраванні".

Няменш цікавы й ліст прысланы А.:

"... Да гэтага ліста мяне падштурхнула адна прычына. Даведаўшыся пра існаванне Незалежнае Беларускае Царквы, я стаў цікавіцца Яе гісторыяй і дзейнасцю. І зараз менавіта з БАПЦ я звязваю свае надзеі і спадзяванні на годнае будучае нашае любае Бацькаўшчыны.

З даўніх часоў я ёсць прыхільнікам беларускае незалежнасці. Шкада, што ідэя незалежнасці так і не рэалізаваная практычна. Але я веру, што агульнымі намаганнямі - з Божае ласкі - прыйдуць і ў Беларусі лепшыя часы.

Я быў выхаваны ў камуністычнай краіне, але мяне заўжды хвалявалі пытанні духоўнасці. На вялікі жаль, тая Праваслаўная царква, якая сёньня існуе на Беларусі, не адпавядае патрабаванням часу і маім асабістым духоўным запатрабаванням. Ды і ня толькі маім. Ілжывая і скарумпаваная, так званая Беларуская Праваслаўная царква сьпелася з афіцыйнымі ўладамі, якія душаць усялякія праявы беларушчыны і дэмакратыі. Мне здаецца, што ў сваім сёньняшнім стане яна ня мае будучыні і не здольна даць яе нашаму беларускаму народу. ...

Я не ёсьць адмыслоўцам у пытаньнях рэлігіі, і таму хацеў бы таксама атрымаць пэўныя веданні аб Праваслаўі. І мне вельмі было б да сэрца, што менавіта БАПЦ нясе Праваслаўе, хрысьціянскую ідэю ў непарыўнай сувязі з Беларускаю нацыянальнаю ідэяй. Бо, натуральна, - "усе роўныя перад Богам".

Мы шчыра дзякуем аўтарам гэтых і іншых лістоў за цікавыя заўвагі й думкі аб сёньняшняй рэлігійнай сытуацыі на Бацькаўшчыне й справе ўзнаўленьня там БАПЦ.

Вельмі шкадуем, што ня маем магчымасьці ўсім ім, або адразу адказаць.

Хочам, аднак, запэўніць, што іхныя лісты найлепшая нам заплата за нялёгкую дабраахвотную рэдакцыйную працу.

## БЕЛАРУСКАЕ ХРЫСЬЦІЯНСКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ ІМЯ СЬВЯТОЙ САФІІ СЛУЦКАЙ

18-га лістапада г.г. Міністэрства Юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала рэспубліканскага абсягу арганізацыю пабожных беларускіх патрыётаў п.н. "Беларускае хрысціянскае згуртаванне імя святой Сафіі Слуцкай".

Мэтай, якую ставіць перад сабою згуртаваньне ёсьць "аб'яднанне людзей, падтрымліваючых ідэю працягу і развіцця хрысьціянства ў Беларусі, і аб'яднанне намаганняў членаў на арганізацыю медыцынскай і гуманітарнай дапамогі грамадзянам Рэспублікі Беларусь, маючых у ёй патрэбу".

Згуртаваньне мае эмблему, на якой " у цэнтры круга размешчана выява крыжа святой Еўфрасінні Полацкай - сімвал хрысціян-беларусаў, акамляе які цярновы вянец. Па дыяметру сімвала словы "Беларускае хрысціянскае згуртаванне імя святой Сафіі Слуцкай".

Дакладнейшыя інфармацыі праз гэтую годную ўхвалы арганізацыю спадзяемся падаць у найбліжэйшым нумары "Царкоўнага Пасланца".

## ФОНД АДБУДОВЫ БАПЦ НА БЕЛАРУСІ

У сучасных эканамічных умовах на Бацькаўшчыне дзейнасьць пачынальнікаў адбудовы там Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы патрабуе матэрыяльнае дапамогі з боку нашае эміграцыі.

З мэтай збору гэтае дапамогі Кансысторыя БАПЦ адчыніла адумысловы фонд, складаць ахвяры на які заклікае ўсіх беларусаў, што верныя ідэі спрыяльнае й паможнае ў нацыянальных імкненьнях, ды незалежнае адвонку Праваслаўнае Царквы.

Чэкі, калі ласка, выпісваць на BAOC Consistory й слаць на адрыс P.O. Box 5982, Somerset, N.J. 08875-5982, або плаціць вызначаным і пасьветчаным на гэта зьбіральнікам на мейсцах.

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Перад Вашымі вачыма, Дарагія Чытачы, яшчэ адзін, гэтым разам калядні, нумар “Царкоўнага Пасланца”.

У ягоным зьяўленьні на сьвет хацелася-б без засьцярогаў бачыць асягненьне, але, нажаль, даводзіцца згледзець і немалую няўдачу.

Асягненьнем ён, бязумоўна, ёсьць у тым сэньсе, што пойдзе ў сьвет і на Бацькаўшчыну, ды гэткім чынам кліч да ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы лучыць на Родную Зямлю яшчэ раз.

За няўдачу-ж лічым яго таму, што ўзноў, зь нястачы грошай, давялося выдаць падвойны нумар зь недастатковай колькасьцяй бачынаў, на якіх не знайшлося мейсца, каб закрануць хоць крыху больш пытаньняў, што стаяць перад нашым рухам за адраджэньне на Беларусі запраўды нацыянальнае, незалежнае адвонку Беларускае Праваслаўнае Царквы.

У гэтай няпершай няўдачы ня віна Рэдакцыйнае Калегіі “Царкоўнага Пасланца”, а ейная прычына йдзе з пагляду ў нашай агульнай сьведамасьці, што толькі сьвецкі палітычны актывізм ёсьць нашым вызвольным змаганьнем, у якое царкоўныя справы не ўваходзяць.

Гэты памылковы ды шкодны пагляд нам няраз дорага каштаваў, бо напрыклад, каб з абвешчаньнем незалежнасьці ў 1990-м годзе, замест прыйняць за сваю закамуфляжаваную на царкоўны від маскоўскую пятую калёну, мы ўзнавілі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, палітычная сытуацыя ў Беларусі сёньня магла-б быць іншая.

Гэта разумеюць ворагі нашае незалежнасьці ды ўсялякімі спосабамі, улучна зь бяспраўнымі законамі, намагаюцца да адраджэньня роднае Беларускаму Народу Праваслаўнае Царквы не дапусьціць.

Мала толькі хто разумее гэта сярод нас, як на Бацькаўшчыне, гэтак і сярод эміграцыі.

З таго й недаволі ў нас матарыяльных магчымасьцяў на царкоўнае адраджэньне, хоць бясконца зьбіраюцца грошы на розныя, часам нядужа патрэбныя, надумы.

Дзякуй Богу, усё-ж, сярод нашае эміграцыі ёсьць яшчэ людзі няглухія на патрэбы нацыянальна-царкоўнага адраджэньня на Бацькаўшчыне, якім наш часапіс служыць, што відаць з ахвяраў наступных асобаў: Р. Галяк - 50 д., Б. Данілюк - 50 д., др. Я. Запруднік - 20 д., Мітр. Ізяслаў - 50 д., Кансысторыя БАПЦ - 55 д., М. Касьцюк - 10 д., Ю. Касьцюкевіч - 50 д., Я. Крэсла - 10 д., прсв. А Кулакоўскі - 31.72 д., П. Кулеш - 50 д., Ю. Лапіцкі - 40 д., Я. Лешчанка - 5 д., В. Лосік - 10 д., А. Падлескі - 100 д., Парахвія Кат. Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага - 100 д., П. Пікулік - 25 д., М. Сагановіч - 20 д., А. Сёмуха - 6 д., А. Субота - 20 д., В. Шчэцька - 10 д., А. Тальянскі - 5 д., прат. М. Таўпека - 20 д., Т. Ч. - 20 д., Я. Юхнавец - 5 д., за якія мы ім шчыра ўдзячныя.

Дзякуючы іхным ахвярам наш часапіс зможа збудзіць яшчэ больш сумленьняў ды скіраваць іх на адбудову Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне, праз пачаткі якое да нас даходзяць узнадзейныя весткі.

Няхай-жа Бог узнагародзіць нашых дабрадзеяў, а іхны прыклад заахвоціць да шчодрых ахвяраў на Божую Справу яшчэ больш нашых чытачоў!

Рэдакцыйная Калегія
“Царкоўнага Пасланца”

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST CYRIL'S OF TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702
CHURCH MESSENGER
Vol. 25, No. 3-4, Christmas 1997
ISSN 1085-973x

ADDRESS CORRECTION REQUESTED

RETURN ADDRESS:
P.O. BOX 5982
SOMERSET, N.J. 08875-5982

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44